# Кооперацыя БССР

Б. С. С. Р.



ЧАСОПІСЬ
БЕЛКООПСАЮЗУ
І БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ

5-6

1931

МЕНСК

# Усім райспажтаварыствам і ЦРК!

Выходзячы з вялізарных задач, якія стаяць перад спажывецкай коопэрацыяй ва ўмовах шпаркіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і ўлічваючы вялікае значэньне друку ў справе мобілізацыі мас на выкананьне гэтых задач, Белкоопсаюз разам з Белсампрамсаюзам выдае часопіс

# „КООПЭРАЦЫЯ БССР“

Выходзіць часопіс адзін раз у дзьве дэкады (20 дзён), ілюстраваная, цалкам разьлічаная на масавага нізавога чытача-актывістага.

Апрача шырокага высьвятленьня жыцьця і працы нізавое спажывецкае і рабочае коопэрацыі, абмену практыкаю і вопытам працы, часопіс „Коопэрацыя БССР“ друкуе галоўнейшыя пастановы Белкоопсаюзу, законы і загады ўраду, якія датычацца коопэрацыі. вядзе консультацыйны аддзел, у якім дае адказы на ўсе запытаньні нізавых коопэрацыйных організацый і ўсіх пайнікаў.

Часопіс шырока высьвятляе жыцьцё і працу рабочае коопэрацыі, сваячасова ўзьнімае галоўнейшыя пытаньні ўсяе працы спажывецкае сыстэмы.

Праўленьне Белкоопсаюзу прапануе ўсім райспажтаварыствам і ЦРК безадкладна падпісацца на часопіс „Коопэрацыя БССР“. Адначасова трэба паставіць задачу популярызацыі часопісі і вярбоўкі падпісчыкаў сярод коопэрацыйнага актыву як у гарадох, так і па ўсёй раённай сетцы.

Было-б пажадана, каб падпіска на часопіс па Вашаму гораду, раёну была зроблена адразу Вамі за кошт культфонду для крам, коопэрацыйных куткоў, школ і г. д.

Пастаўце сабе на мэце распаўсюдзіць па свайму гораду, раёну ня менш 12-15 экзэмпляраў.

Адначасова зварочваем Вашу ўвагу на ўдзел у часопісі корэспондэнцкім матар‘ялам: допісамі, артыкуламі і фотоздымкамі. За зьмяшчэньне матар‘ялаў рэдакцыя плоціць.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

| | | |
|---|---|---|
| на 2 месяцы | (3 нумары) | — р. 60 к. |
| „ 4 „ | (6 нумароў) | 1 р. 10 к. |
| „ 6 месяцаў | (9 нумароў) | 1 р. 60 к. |
| „ 1 год | (18 нумароў) | 3 р. — к. |

Падпісную плату на часопіс здавайце непасрэдна сваёй пошце, якая нясе адказнасьць за правільную дастаўку.

**Нам. старшыні праўленьня БКС КОНДРАЛЬ**

**Адказны рэдактар часопісі ГІНЗБУРГ**

**АДРЭС РЭДАКЦЫІ:**

**г. Менск, Савецкая 68, рэдакцыя часопісі „КООПЭРАЦЫЯ БССР“**

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# КООПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКООПСАЮЗУ і БЕЛКООППРАМСАЮЗУ
ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЕН

КРАСАВІК—МАЙ

№ 5-6

МЕНСК 1931

# ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 1138. Заказ № 1602—1500 экз. „Палесдрук", Гомель

Г. Хаскін.

# Неадкладна прыступіць да перабудовы спажыўкоопэрацыі

Пастанова ЦК УсеКП(б), СНК СССР і Цэнтросаюзу, апублікаваная ў „Правде“ ад 12 мая, мае выключнае гісторычнае значэньне для ўсёй работы спажывецкай коопэрацыі ў цэлым і кожнай організацыі ўпаасобку.

Гэты важнейшы документ неабходна кожнаму рабочаму, колгасьніку, бедняку, батраку і ў першую чаргу кожнаму работніку спажыўкоопэрацыі дакладным чынам ня толькі прачытаць, але і вывучыць для таго, каб глыбока зразумець прычыны буйных недахопаў і памылак у рабоце спажывецкай коопэрацыі, бо толькі зразумеўшы гэта, стане ясным, чаму робіцца такі круты, але зусім неабходны і верны паварот у адносінах перабудовы ўсёй работы.

Між тым, ужо выяўляюцца паасобныя настроі і гаворкі права-„лявацкага“ разважаньня аб нібы некаторым разыходжаньні паміж устаноўкамі гэтага документу з устаноўкамі, данымі ў пастановах сьнежаньскага пленуму ЦКК УсеКП(б) аб рабоце спажывецкай коопэрацыі і шляхох яе рэорганізацыі.

Што гаворыць пастанова ЦК, СНК і Цэнтрасаюзу аб стане работы спажывецкай коопэрацыі? Яна гаворыць наступнае:

„Асноўным недахопам у сучаснай рабоце спажыўкоопэрацыі зьяўляюцца непаваротнасьць і бюрократызм у рабоце, якія вядуць да замарожваньня таваразвароту, у выніку чаго нярэдка штучна ствараецца беставар‘е пры значным павялічэньні таварных лішкаў на складах“.

Што прывяло работу коопэрацыі да такога стану? З выключнай выразнасьцю дае адказ на гэта пытаньне пастанова ЦК УсеКП(б), СНК СССР і Цэнтросаюзу, дзе гаворыцца:

„Гэтыя недахопы ў рабоце спажыўкоопэрацыі тлумачацца, галоўным чынам, тым, што, выцесьніўшы прыватніка і заваяваўшы монопольнае становішча на рынку, спажыўкоопэрацыя пачала пагарджаць прынцыпам гаспадарчага разрахунку і задачай разгортваньня савецкага гандлю, памылкова меркаваўшы, што ўжо насьпелі ўмовы для непасрэднага пераходу да простага продуктаабмену. Пры гэтым спажывецкая коопэрацыя забылася, што выцясьненьне прыватніка з прыватнага гандлю яшчэ не азначае зьнішчэньня ўсякага гандлю, што, наадварот, выцясьненьне прыватнага гандлю мае на ўвазе ўсямернае разьвіцьцё савецкага гандлю і разгортваньне сеткі коопэрацыйных і дзяржаўных гандлёвых організацый па ўсім СССР“.

Такім чынам пры супастаўленьні ацэнкі недахопаў і памылак у рабоце спажыўкоопэрацыі, данай у пастановах ЦК УсеКП(б) ад 15 мая 1930 году, у пастановах XVI партзьезду, сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і пленуму ЦК КП(б)Б і ацэнкі недахопаў і памылак, данай у апошняй пастанове ЦК, СНК і Цэнтросаюзу, робіцца зусім відавочным, што ЦК на працягу **ўсяго апошняга пэрыоду** пасьлядоўна і з усёй сілай мобілізаваў увагу ўсёй партыі, рабочай клясы і ўсёй коопэрацыйнай сыстэмы на выжываньне

буйнейшых недахопаў і памылак у рабоце спажыўкоопэрацыі—організацыі, закліканай адыгрываць вялізарнейшую ролю ва ўсім разгорнутым соцыялістычным будаўніцтве.

Сьмелы і рашучы крок, зроблены ў апошнім документе ў бок перабудовы ўсёй работы спажыўкоопэрацыі, зьяўляецца ня чым іншым, як працягам тых мерапрыемстваў, якія партыя вызначала і праводзіла ў апошні час для паляпшэньня работы спажывецкай коопэрацыі.

Паводле дырэктыў партыі, скончана рэорганізацыя сельскай сеткі, створаны на вёсцы выбарныя органы коопэрацыі, сельспажыўтаварыствы; створана сетка ЗРК пры асноўных буйных прадпрыемствах, якія (ЗРК) ужо зусім сябе апраўдалі, як лепшая форма абслугоўваньня рабочага спажыўца і ўцягненьня шырокіх мас у работу коопэрацыі. Адноўлена транспортная і водная коопэрацыя, што ў сваю чаргу, бязумоўна, палепшыла абслугоўваньне рабочых чыгуначнага і воднага транспорту, наблізіла коопэрацыю непасрэдна да вытворчасьці.

Таму, прыведзеныя вышэй настроі і „разговорчики“ павінны намі расцэньвацца, як яўна опортуністычныя, і па іх трэба з усёй сілай біць.

У чым заключаецца выключнае гістрычнае значэньне пастановы ЦК, СНК і Цэнтросаюзу для ўсёй партыі, рабочай клясы, для самой сыстэмы спажывецкай коопэрацыі?

Гэты документ яшчэ раз з усёй сілай выкрыў буйнейшыя недахопы і памылкі ў рабоце спажыўкоопэрацыі, даўшы зусім правільны аналіз прычын гэтых недахопаў і вызначыў зусім правільныя шляхі далейшага разьвіцьця і перабудовы ўсёй работы спажыўкоопэрацыі.

Першае—гэта спэцыялізацыя ўсёй гандлёвай дзейнасьці спажывецкай коопэрацыі, што бязумоўна прывядзе да паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца, спрашчэньня кіраўніцтва справай забесьпячэньня, паскарэньня таваразвароту, забесьпячэньня ўліку попыту спажыўца і ўзмацніць увагу сыстэмы да пытаньняў якасьці продукцыі.

ЦК УсеКП(б), СНК Саюзу і Цэнтрасаюз у сваёй пастанове ўказваюць, што пры Цэнтрасаюзе павінны быць створаны ўсесаюзныя галінавыя аб'яднаньні па гуртавым гандлі, а ў рэспубліках—рэспубліканскія аб'яднаньні па раздробным гандлі. Гэтыя рэспубліканскія галінавыя аб'яднаньні па раздробным гандлі павінны быць пабудаваны на прынцыпах поўнага гаспадарчага разрахунку, самастойным балянсе, поўным адзінаначальлі кіраваньня са сваёй уласнай розьнічнай сеткай і складзкой тарнай і транспортнай гаспадаркай.

Як практычна мы думаем гэта правесьці ў нас у БССР?

Асноўнае—гэта з такой-жа рашучасьцю, адпаведна пастановам пленуму ЦК КП(б)Б, мы павінны неадкладна прыступіць да стварэньня рэспубліканскіх галінавых аб'яднаньняў па раздробным гандлі, як: па гатовай вопратцы, мануфактуры, галянтарэі, трыкотажы, скуры і абутку, сілікатных таварах, кандытэрскіх вырабах, мэблі, дровах і інш. гаспадарчых таварах, культтаварах, мясе, рыбе і птушцы.

Зусім відавочна, што пры такой організацыі спэцыялізацыі гандлю ўжо зараз паўстае рад пытаньняў з боку паасобных ЦРК аб тым, якая будзе ўвязка розьнічнай сеткі ЦРК з розьнічнай сеткай галінавых аб'яднаньняў Белкоопсаюзу і наогул, ці патрэбна розьнічная сетка ЦРК пры організацыі гэтых аб'яднаньняў. На гэтыя пытаньні, якія выклікаюць розныя разважаньні, неабходна адразу даць вычарпальны адказ.

Па-першае, гутарка ідзе аб перадачы гэтым аб'яднаньням Белкоопсаюзу розьнічных гандлёвых спэцыялізаваных магазынаў. Па-другое, у абавязак гэтых аб'яднаньняў будзе ўваходзіць пашырэньне сеткі спэцыялізаваных магазынаў. Значыцца ад ЦРК да галінавых аб'яднаньняў

пяройдзе толькі тая частка розьнічнай сеткі, якая зьяўляецца спэцыялізаванай.

Ці азначае гэта ліквідацыю розьнічнай сеткі ЦРК? Ні ў якай меры. У ЦРК застаецца вялікая сетка закрытых разьмеркавальнікаў, унівэрсальных магазынаў, продуктовых, бакалейна-гастраномічных, вінных і хлебных магазынаў, так што ўсе гэтыя разважаньні носяць характар ня больш-ня менш, як панікёрства, бюрократычнага чапляньня за старыя формы работы, боязьні перабудаваць работу на новых пачатках.

Побач з гэтым зусім выразна вырашана пытаньне аб паскарэньні таваразвароту са скасаваньнем практыкі нормаваньня продажу тавараў; пакідаючы часовае нормаваньне паасобных найбольш дэфіцытных відаў тавару, скасоўваецца практыка броняваньня тавараў, якая да апошняга часу ў рабоце нізавых коопэрацыйных організацый і ў органах Наркомснабу атрымала шырокае ўжываньне, што побач з агульнай непаваротнасьцю і няўменьнем самой сыстэмы манэўраваць таварнымі фондамі, паглыбляла ўсю гандлёвую дзейнасьць і ўзмацніла зусім правільна адзначаныя ў пастанове ЦК УсеКП(б), СНК Саюзу і Цэнтросаюзу моманты замарожваньня таваразвароту і г. д. Аднак, бронь захоўвае сваю сілу для найбольш важных з пункту гледжаньня народнагаспадарчага значэньня мерапрыемстваў, як лесараспрацоўкі, лесасплаў, пуціна і сэзонныя віды загатовак—яйкі і масла.

Зусім ясна павінна быць для ўсёй сыстэмы спажыўкоопэрацыі, што такое мерапрыемства, як скасаваньне нормаваньня і броняваньня тавараў ні ў якай меры не азначае разгортваньня гандлю для гандлю. Гутарка ідзе аб разгортваньні савецкага гандлю, а гэта значыць, павароту гандлёвай дзейнасьці сыстэмы тварам да запытаньняў вытворчасьці, запытаньняў паасобных раёнаў забесьпячэньня завозу і продажу тавараў у пэрыоды правядзеньня важнейшых гаспадарча-політычных кампаній на вёсцы.

Перабудова ўсёй вытворчай дзейнасьці спажывецкай коопэрацыі, у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б), СНК і Цэнтросаюзу накіравана ў бок разгрузкі сыстэмы ад неўласьцівай ёй работы, узмацненьня выразнасьці кіраўніцтва паасобнымі вытворчымі коопэрацыйнымі організацыямі, максымальнага ўкараненьня гаспадарчага разрахунку, адзінаначальля і адзінства кіраўніцтва ўсёй дзейнасьцю паасобных вытворчых галін. Да гэтага часу ўсе гэтыя асноўныя моманты ў вытворчай дзейнасьці коопэрацыі адсутнічалі.

Практычна мы павінны правесьці наступныя мерапрыемствы:

Стварыць рэспубліканскае галінавае аб'яднаньне па хлебапячэньні, перадаўшы гэтаму аб'яднаньню ўсе буйныя мэханізаваныя хлебазаводы і хлебапякарні, хлебазаводы, якія будуюцца, і ўсю справу забесьпячэньня і абсталяваньня хлебнай прамысловасьці, будуючы гэта аб'яднаньне на поўным гаспадарчым разрахунку з самастойным балянсам.

Якія павінны быць узаемаадносіны ў далейшым гэтага аб'яднаньня і яго хлебазаводаў з паасобнымі ЦРК, ЗРК і спажывецкімі таварыствамі? Гэтыя ўзаемаадносіны павінны будавацца на дагаворных пачатках. Хлебазаводы павінны заключаць дагаворы з ЦРК, ЗРК і спажывецкімі таварыствамі на забесьпячэньне іх сваёй прадукцыяй. Гэта павінна прывесьці да таго, што ЦРК, ЗРК і спажывецкія таварыствы будуць значна больш строга, чым да гэтага часу (калі завод знаходзіўся непасрэдна ў іх распараджэньні), адносіцца да якасьці продукцыі. Пры заключэньні дагавароў павінна быць строга агаворана, што нядобраякасны хлеб

і іншыя вырабы, што вырабляюцца хлебазаводамі і хлебапякарнямі, прымацца ня будуць. З другога боку, гэта абавяжа хлебазаводы таксама з большай увагай і адказнасьцю падыходзіць да пытаньня якасьці продукцыі.

Неабходна стварыць рэспубліканскае галінавае аб‘яднаньне па прыгарадных гаспадарках, куды павінны ўвайсьці буйныя прыгарадныя гаспадаркі або комбінаты (гародныя гаспадаркі, малочныя фэрмы, сьвінаадкормачныя гаспадаркі), якія маюць гарадзкое і міжраённае значэньне. Прыгарадныя гаспадаркі, малочныя фэрмы, сьвінаадкормачныя пункты спажывецкай коопэрацыі, якія ня маюць гарадзкога і міжраённага значэньня, павінны быць перададзены ЗРК, спажывецкаму таварыству і г. д. Гэта значыць, у галінавае аб‘яднаньне ўвойдуць тыя прыгарадныя гаспадаркі, продукцыя якіх перавышае патрабаваньні аднаго ЗРК або транспортнага спажывецкага таварыства і патрабуе агульнага плянаваньня з боку рэспубліканскага цэнтру. Такой організацыяй будзе дасягнута і тое, што рад дробных прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм і г. д. мы непасрэдна наблізім да рабочых коопэратываў, дэцэнтралізуем кіраўніцтва гэтымі гаспадаркамі, спросьцім яго (кіраўніцтва) і ўсямерна ўзмацнім масавы рабочы контроль за работай гэтых гаспадарак. Тыя буйныя гаспадаркі або комбінаты, якія ўвойдуць у галінавае аб‘яднаньне, сваю работу павінны ўвязаць з мясцовымі профорганізацыямі і гарсаветамі.

Выключнае значэньне мае перабудова аднэй з важнейшых галін работы ў спажывецкай коопэрацыі—грамадзкага харчаваньня.

ЦК УсеКП(б), СНК і Цэнтросаюз у сваёй пастанове прапануюць вылучыць грамадзкае харчаваньне ў самастойную сэкцыю ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі з асобным паявым капіталам і балянсам. Гэта значыць, што будзе створана зусім самастойная аўтономная організацыя ў сыстэме Белкоопсаюзу па кіраўніцтве важнейшай галінай, якая мае выключнае значэньне ў справе рабочага забесьпячэньня. Гэта забясьпечыць пасьпяховае кіраўніцтва ўсёй справай грамадзкага харчаваньня, паляпшэньне якасьці продукцыі, абслугоўваньне спажыўца, падрыхтоўку неабходных кадраў для грамадзкага харчаваньня і г. д.

Да гэтага часу гэта работа, знаходзячыся ў агульнай масе вялікіх і дробных пытаньняў, не атрымала тэй увагі, якую яна павінна і абавязана была атрымаць.

Такія-ж аўтономныя сэкцыі, зусім самастойныя, са сваімі праўленьнямі павінны быць створаны пры ЦРК, ЗРК і транспортных спажывецкіх таварыствах, як зусім самастойныя адзінкі па кіраўніцтве справай грамадзкага харчаваньня. Гэта організацыя ў самы бліжэйшы час павінна даць буйнейшае паляпшэньне ўсёй пастаноўцы справы грамадзкага хавчаваньня, павінна больш, чым да гэтага часу, прыцягнуць найшырэйшыя масы да справы яго паляпшэньня.

У галіне загатоўчай работы спажывецкай коопэрацыі таксама павінен быць праведзен рад буйнейшых паляпшэньняў. З пастановы ЦК УсеКП(б), СНК СССР і Цэнтросаюзу відаць, што ў самы бліжэйшы час будзе выразна акрэсьлена роля спажывецкай коопэрацыі, як асноўнага загатоўцы кожнай рэспублікі і вобласьці. Гэта зьнішчыць няўстойлівасьць, існаваўшую ў спажывецкай коопэрацыі ў пытаньнях загатовак да гэтага часу. Акрамя таго, гэта пастанова дае зусім выразную ўстаноўку аб дапушчэньні ЦРК, ЗРК і транспортных спажывецкіх таварыстваў да загатовак гародніны і малочных продуктаў як унутры сваёй рэспублікі, так і ў раёнах іншых рэспублік і вобласьцяй, пад контролем органаў Наркомснабу, што ў сваю чаргу, бязу-

моўна, павінна пашырыць гаспадарчую ініцыятыву кожнага ЦРК, ЗРК і транспортнага спажывецкага таварыства ў галіне паляпшэньня забесьпячэньня сваіх спажыўцоў малочнымі продуктамі і гароднінай.

Побач з перабудовай усёй загатоўчай работы спажывецкай коопэрацыі мы лічым неабходным стварэньне пры Белкоопсаюзе двох галінавых аб'яднаньняў—аднаго па гародніне з функцыямі загатовак, перааапрацоўкі і забесьпячэньня і другога—па малаку і маслу з функцыямі загатовак, перааапрацовак і забесьпячэньня. Гэта таксама спэцыялізуе і спросьціць кіраўніцтва гэтымі важнейшымі продуктамі харчаваньня, іх перааапрацоўкай, хаваньнем і разьмеркаваньнем.

Ва ўмовах Беларусі лесараспрацоўкі, лесасплаў і торфараспрацоўкі, якія разьвіваюцца і пашыраюцца з кожным годам, маюць выключнае народнагаспадарчае значэньне, і абслугоўваньне іх спажывецкай коопэрацыяй патрабуе рашучага паляпшэньня. Тут таксама зусім правільна даецца ўстаноўка на спрашчэньне і конкрэтызацыю абслугоўваньня гэтых важнейшых мерапрыемстваў шляхам стварэньня спэцыяльных коопэрацыйных сэкцый у сыстэме Белкоопсаюзу па абслугоўваньні леса і торфараспрацовак. Гэту сэкцыю неабходна неадкладна стварыць і гэтым самым дабіцца рашучага паляпшэньня ў гэтай галіне.

ЦК УсеКП(б), СНК СССР і Цэнтросаюз у сваёй пастанове высунулі яшчэ рад буйнейшых пытаньняў, маючых выключнае значэньне для далейшай работы спажывецкай коопэрацыі, як кадры, падвышэньне зарплаты работнікам спажывецкай коопэрацыі і ўвядзеньне заахвочваючай сыстэмы аплаты работы, што, бязумоўна, павінна выклікаць значна большую зацікаўленасьць у рабоце работнікаў прылаўку і што будзе вымагаць, вядома, з боку кожнага работніка бязумоўнага выкананьня асноўных паказальнікаў, якія павінны паслужыць вымяральнікам для заахвочваючай сыстэмы, а таксама пытаньне перабудовы парт. і профработы ў арганізацыях спажывецкай сыстэмы.

Усе гэтыя пытаньні таксама патрабуюць хуткага і рашучага ажыцьцяўленьня. Нашы арганізацыі павінны будуць зараз-жа зьвязацца з мясцовымі партыйнымі і профарганізацыямі для неадкладнай перабудовы парт. і профработы ў адпаведнасьці з гэтай пастановай.

Задача праўленьня Белкоопсаюзу сумесна з ЦП саюзу работнікаў коопэрацыі і гандлю—у самы бліжэйшы тэрмін увесьці ў моц новую зарплату і заахвочваючую сыстэму.

Асноўнай базай ва ўсёй дзейнасьці работы сыстэмы паасобных яе галінавых аб'яднаньняў і нізавых зьвеньняў сыстэмы зьяўляецца поўнае ўкараненьне стражэйшага гаспадарчага разрахунку, рэнтабельнасьці, зьніжэньне адміністрацыйна-гаспадарчых і гандлёва-арганізацыйных выдаткаў і выкананьне аднае з важнейшых задач—пляну мобілізацыі сродкаў.

Усе гэтыя пытаньні зьяўляюцца стрыжнёвымі. Вакол іх павінна разьвівацца і пашырацца ўся далейшая дзейнасьць спажывецкай коопэрацыі.

# Аб спажывецкай коопэрацыі

## Усім партыйным, савецкім, гаспадарчым, коопэрацыйным, профсаюзным і комсамольскім організацыям

Сур'ёзьнейшая роль спажывецкай коопэрацыі ў справе ажыцьцяўленьня народнагаспадарчага пляну трэцяга году пяцігодкі, вялічэзны рост таваразвароту краіны і вялікая ўдзельная вага коопэрацыйнай тавараправодзячай сеткі пры адсталасьці і бюрократычнасьці коопэрацыйных органаў патрабуюць перабудовы работы спажывецкай коопэрацыі на новых пачатках.

Асноўным недахопам у цяперашняй рабоце спажыўкоопэрацыі зьяўляюцца непаваротнасьць і бюрократызм у рабоце, якія вядуць да замарожваньня таваразвароту, з прычыны чаго нярэдка штучна ствараецца беставар'е пры значным павялічэньні таварных рэштқаў на складах.

Гэтыя недахопы ў рабоце спажыўкоопэрацыі тлумачацца, галоўным чынам, тым, што, выціснуўшы прыватніка і заваяваўшы монопольнае становішча на рынку, спажыўкоопэрацыя стала нядбайна адносіцца да прынцыпаў гаспадарчага разьліку і задач разгортваньня савецкага гандлю, памылкова мяркуючы, што ўжо насьпелі ўмовы для непасрэднага пераходу да простага продуктаабмену. Пры гэтым спажыўкоопэрацыя забылася, што выцясьненьне прыватніка і прыватнага гандлю яшчэ не азначае зьнішчэньня ўсякага гандлю, што, наадварот, выцясьненьне прыватнага гандлю мяркуе ўсямернае разьвіцьцё савецкага гандлю і разгортваньне сеткі коопэрацыйных і дзяржаўных гандлёвых організацый па ўсім СССР.

На падставе гэтых памылак узьнікла аслабленьне прынцыпаў выбарнасьці нізавых зьвеньняў спажывецкай коопэрацыі і адрыў коопэрацыі ад сваёй масавай базы, што не магло ня прывесьці да ўзмацненьня бесконтрольнасьці апарату, ігнараваньня патрэб спажыўца і сыстэмы „абязьлічанага гандлю“, г. зн. завозу і продажу тавараў бяз вучоту асаблівасьцяй раёнаў СССР і патрэб іх насельніцтва.

У мэтах зьнішчэньня гэтых недахопаў і перабудовы работы спажывецкай коопэрацыі на новых пачатках Савет Народных Комісараў Саюзу ССР, Цэнтральны Комітэт Усе КП(б) і Цэнтросаюз прапануюць правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы.

### Розьнічны і оптовы гандаль спажыўкоопэрацыі

#### I.

1. У мэтах лепшага абслугоўваньня спажыўца, спрашчэньня кіраўніцтва справаю забесьпячэньня спажыўца, паскораньня таваразвароту і спэцыялізацыі кіраўніцтва гандлёвай сеткай, стварыць пры Цэнтросаюзе оптовыя, галінавыя, усесаюзныя, дзейнічаючыя на аснове гаспадарчага разьліку, аб'яднаньні па наступных групах тавараў: а) гатовае адзеньне; б) галёшы, абутак і скураныя тавары; в) галянтарэя, трыкотаж, гатовая бялізна; г) мануфактурна-суконна-ваўняныя вырабы; д) тавары па культурным абслугоўваньні; е) сілікатныя вырабы; ж) скабяныя вырабы; з) вырабы саматужнай прамысловасьці; і) бакалейна - гастрономічныя тавары; к) плодагародніна (з функцыямі загатоўча-снабжэнчымі); л) малочныя продукты (з функцыямі загатоўча-снабжэнчымі), а Цэнтросаюз перабудаваць па тыпу ВСНГ і яго прэзыдыуму.

У рэспубліках, краёх і вобласьцях стварыць рэспубліканскія краёвыя і абласныя аб'яднаньні розьнічнага гандлю па вышэйпералічаных групах тавараў з дапаўненьнем

аб'яднаньняў па наступных групах тавараў: а) мэблевыя вырабы; б) мяса, птушка; в) цукерныя вырабы; г) дзіцячага забесьпячэньня.

Заўвага. У тых выпадках, калі ў паасобных гарадох па наліччы гандлёвай сеткі або нязначнасьці таваразвароту вылучэньне спэцыялізаванай таваpаправодзячай сеткі па ўсіх пералічаных відах тавараў зьяўляецца немэтазгодным, дапушчаць арганізацыю комбінаванай сеткі па продажы розных тавараў, па магчымасьці роўназначных.

Для кіраваньня галінавымі аб'яднаньнямі стварыць дырэкцыі, якія прызначаюцца і зацьвярджаюцца па оптовых аб'яднаньнях прэзыдыумам Цэнтросаюзу, па розьнічных—прэзыдыумамі рэспубліканскіх, краёвых і абласных спажыўсаюзаў.

Рэспубліканскім, краёвым і абласным галінавым аб'яднаньням перадаць усе спэцыялізаваныя крамы спажывецкай коопэрацыі па азначаных групах тавараў з абавязацельствам організацыі пры кожным аб'яднаньні складзка - тара - транспортнай гаспадаркі.

Запрапанаваць Цэнтросаюзу стварыць у рэспубліках, краёх і вобласьцях оптовыя склады, а ВСНГ—перадаць Цэнтросаюзу рад базісных складаў, якія ня маюць непасрэднай сувязі з прадпрыемствамі. ВСНГ і Цэнтросаюзу ў 2-дэкадны тэрмін паведаміць у Савет працы і абароны аб колькасьці перадаваемых складаў і ўмовах перадачы.

2. Адмяніць практыку нормаваньня продажу прамтавараў, устанавіўшы часова толькі для некаторых найбольш дэфіцытных відаў тавараў норму водпуску ў адны рукі.

Адмяніць практыку броняваньня прамтавараў (за выключэньнем броняваньня прамтавараў па опэрацыях: лесапрацоўкі, лесасплаў, пуціна, загатоўкі: пушніны, яек і масла) і продажу іх па ордэрах, захаваўшы часова водпуск па ордэрох толькі для адзеньня (касьцюмы, паліто) і абутку з вызначэньнем тэрміну дзеяньня ордэроў (10 дзён).

3. Устанаўляючы, што галоўная маса тавараў збываецца праз коопэрацыйную розьнічную сетку, выявіць удзел дзяржаўнага розьнічнага гандлю ў разьмеры ня больш 30 проц. усіх фондаў гарадзкога гандлю, дапушчаючы з дазволу Савету працы і абароны ў паасобных гарадох падвышэньне ўдзельнай вагі дзяржгандлю да 35 проц.

4. Запрапанаваць Цэнтросаюзу ўжыць усе неабходныя меры да таго, каб да восені гэтага году былі адкрыты новыя крамы рэчаў харчаваньня (хлеб, мяса, птушка, рыба, гародніна, малочныя продукты, садовіна) у колькасьці ня менш 200 у Маскве, ня менш як па 150 у Ленінградзе і Донбасе, ня менш як па 100 у Харкаве, Кіеве, Растове, Баку, Ніжнім-Ноўгарадзе, Івана-Вазьнясенску, Тыфлісе, Сталінградзе, Сьвярдлоўску, Адэсе і Ташкенце і ня менш як па 80 у іншых гарадох і прамысловых цэнтрах СССР.

5. Цэнтросаюзу, ВСНГ і Наркомснабу аднавіць сыстэму папярэдніх заказаў спажыўкоопэрацыі прамысловасьці.

## Вытворчыя прадпрыемствы спажывецкай коопэрацыі

II

1. Стварыць у сыстэме спажывецкай коопэрацыі вытворчыя аб'яднаньні па наступных галінах:

а) буйныя мэханізаваныя хлебапякарні і хлебазаводы, з аб'яднаньнем іх у спэцыяльныя трэсты пры абласных, краявых і рэспубліканскіх саюзах спажывецкай коопэрацыі і з уваходжаньнем іх ва ўсесаюзнае аб'яднаньне хлебапячэньня пры Цэнтросаюзе;

б) буйныя гародныя, сьвінагадоўчыя, малочныя і штушкаводныя гаспадаркі спажывецкай коопэрацыі, якія маюць абласное, агульнагарадзкое ці міжраённае значэньне, з організацыяй іх у самастойныя гаспадарчыя аб'яднаньні пры рэспубліканскіх, краявых і абласных саюзах і забесьпячэньнем удзелу ў іх мясцовага савету і профсаюзаў.

2. Для разгрузкі спажывецкай коопэрацыі ад неўласьцівых ёй функцый перадаць ад каапэрацыі:

а) прамысловасьць — Наркомснабу (апроч прадпрыемстваў дробнага паўсаматужнага тыпу: вытворчасьць мінэральных вод, пераапрацоўка розных харчовых адходаў ад гандлю і інш.);

б) цырульні і пашывачныя майстэрні—Сампрамкаапэрацыі;

в) пральні—гарсаветам.

Передачу як прамысловых прадпрыемстваў, так і пральняў, цырульняў і пашывачных майстэрняў правесьці з узьмяшчэньнем коопэрацыі па адпаведным разьліку;

г) культурнае абслугоўваньне (кіно перасоўкі, радыё, бібліотэкі)—Саюзкіно, НКасьветы, Наркомпаштэлю; дзіцячыя ўстановы—органам НК аховы здароўя і НК асьветы с захаваньнем адпаведнага адлічэньня коопэрацыі на культабслугоўваньне сваіх пайшчыкаў.

### Загатоўчая дзейнасьць спажывецкай коопэрацыі

III

1. НКСнабу разам з Цэнтросаюзам вызначыць віды загатовак, па якіх спажывецкая коопэрацыя павінна зьяўляцца асноўным загатоўцам для данай вобласьці (краю, рэспублікі).

2. У мэтах устанаўленьня непасрэднай сувязі паміж буйнымі прамысловымі цэнтрамі і вытвараючымі раёнамі, дапусьціць ЦРК, транспортныя спажывецкія таварыства і закрытыя рабочыя коопэратывы гэтых цэнтраў да загатовак гародніны і малочных продуктаў як унутры вобласьці (краю, рэспублікі), так і ў раёнах іншых вобласьцяй (краёў, рэспублік) пад контролем органаў НКСнабу.

3. Гародныя і малочныя продукты, якія загатаўляюцца спажывецкай коопэрацыяй для мясцовага снабжэньня, скарыстаць апошняй непасрэдна без якіх бы то ні было нацэнак на гэтыя загатоўкі з боку органаў НКСнабу.

4. У мэтах стымуляваньня справы адкорму сьвіней пры сталовых, заводзкіх коопэратывах і інш. нізавых зьвеньнях спажывецкай коопэрацці лічыць неабходным замацаваньне за імі ўсёй продукцыі, атрымліваемай ад сьвінаадкормачных пунктаў, з тым, каб 50 проц. гэтай продукцыі ішлі ў якасьці дадатковага снабжэньня данага прадпрыемства звыш пляну.

### Аўтономныя сэкцыі ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі

IV

1. Выдзеліць грамадзкае харчаваньне ў самастойную сэкцыю ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі з паасобным паявым капіталам і балянсам, перадаўшы ёй аб'яднаньне „Усенархарч“.

2. Прапанаваць Цэнтросаюзу безадкладна распачаць організацыю, па прыкладу чыгуначнай і воднай коопэрацыі, наступных аўтономных коопэрацыйных сэкцый: а) рыбалоўнай, б) лесараспрацовак і лесасплаву, в) торфараспрацовак.

### Зарплата

V

1. Падвысіць зарплату работнікам спажывецкай коопэрацыі і ўвесьці падахвочваючую сыстэму аплаты работы шляхам устанаўленьня зарплаты ў процантах ад звароту.

2. Увесьці у сыстэму прэм'яваньне за перавыкананьне якасных

паказальнікаў гандальфінпляну, паскораньне тавараразвароту, зьніжэньне натуральнага выдатку і страт тавараў, скарачэньне гандлёва-арганізацыйных выдаткаў, выкананьне і перавыкананьне плянаў па зборы паявых узносаў, укладаў, авансаў і коопэраваньні насельніцтва.

Гэтыя мерапрыемствы павінны быць ажыцьцёўлены па гарадзкой розьнічнай сетцы Масквы, Ленінграду, Харкава і Данбасу да 15 мая, а па ўсёй сыстёме спажывецкай коопэрацыі — да 15 жніўня 1931 году.

3. Прапанаваць Цэнтросаюзу разам з ЦК саюзу работнікаў коопэрацыі і дзяржгандлю ў месячны тэрмін распрацаваць сыстэму аплаты работнікаў сельскай спажывецкай коопэрацыі.

### Кадры спажывецкай коопэрацыі

VI

Цэнтросаюзу разгарнуць у 1931 годзе кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы ня менш 150 тысяч работнікаў (заг. крам, заг. аддзяленьняў, прадаўцоў. работнікаў грамадзкага харчаваньня, заг. сталовых, кухароў, работнікаў па хлебапячэньні, а іменна, брыгадзіраў, організатараў і пекароў; работнікаў прыгараднай гаспадаркі, а іменна: гароднікаў, заг. адкормачных пунктаў, малочных фэрм і інш.; рахунковых работнікаў).

### Аб рабоце партыйных і профэсіянальных організацый у крамах і складах

VII

1. Для пасьпяховага ажыцьцяўленьня пастаўленых перад коопэрацыйнымі організацыямі задач і пасіленьня партыйнага ўплыву ва ўсіх зьвеньнях спажывецкай коопэрацыі стварыць пры кожным ЗРК цэхавыя парт'ячэйкі з партгрупамі ў кожнай паасобнай гаспадарчай адзінцы (сталовая, крама, фэрма і г. д.), уваходзячыя ў склад партьорганізацыі прадпрыемства. На прадпрыемствах, якія ня маюць ЗРК, організаваць парт'ячэйкі пры закрытых разьмеркавальніках. Пры ўсіх буйных і сярэдніх крамах і складах астатняй сеткі і спажывецкай коопэрацыі організаваць самастойныя партыйныя і комсамольскія ячэйкі, падначаленыя непасрэдна райкому ці гаркому партыі.

2. У найкарацейшы тэрмін перагледзець сетку профсаюзных органаў коопэрацыі з тым, каб ахапіць імі кожны прадмаг, склад, базу і г. д., падначаліўшы іх кіраўніцтву адпаведных раённых ці абласных профарганізацый. Пры кожным ЗРК організаваць самастойны мясцком з профгрупамі пры паасобных гаспадарчых адзінках, дабіваючыся максымальнага ахопу профсаюзным членствам коопэрацыйных работнікаў.

ЦК партыі, СНК Саюзу ССР і Цэнтросаюз ня сумнявэюцца, што мясцовыя партыйныя, профэсіянальныя, коопэрацыйныя, комсамольскія і савецкія організацыі прымуць усе захады да таго, каб гэтае рашэньне было выканана ў дакладнасьці і без прамядленьня.

Старшыня СНК Саюзу ССР
В. Молатаў (Скрабін).

Сэкратар ЦК УсеКП(б)
І. Сталін.

Старшыня Цэнтросаюзу
І. Зяленскі.

А. Сімховіч

# Спажывецкая коопэрацыя ў баёх за другую бальшавіцкую

У гэту вясну на арэну барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, за скарыстоўваньне прыгарадных зямель, за стварэньне дадатковай базы харчовых рэсурсаў для рабочых, выступае зусім новы, малавопытны і ня маючы ніякіх навыкаў і традыцый у гэтай справе барацьбіт у асобе сыстэмы спажыўкоопэрацыі. Баявое дадзена ёй на гэту вясну заданьне: засеяць ня менш 5600 га гародніны, залажыць 50.000 парніковых рам і засеяць каля 15.000 га кармавых



Праца ў парнікох

культур для пракармленьня 15.000 галоў буйнай рагатай жывёлы і 6.000 сьвінаматак, якія будуць снабжаць рабочых малаком і мясам. Заданьне досыць значнае для першага выступленьня і па свайму характару набывае вялізарнае палітычнае і эканомічнае значэньне, вось чаму яно і прыкоўвае да сябе ўвагу партыйных і ўрадовых органаў і з неаслабнай увагай за ім сочыць таксама ўся пролетарская грамадзкасьць.

Для спажыўкоопэрацыі яно зьяўляецца падвойным экзамэнам—экзамэнам на ўменьне пераключыцца на рэйкі вытворчай дзейнасьці наогул і экзамэнам на мясцовае выкананьне ўскладзеных на яе задач ударнымі бальшавіцкімі тэмпамі. Як-жа спраўляецца спажыўкоопэрацыя з гэтымі задачамі, як яна падрыхтавалася да гэтага экзамэну, да веснавой сяўбы, якая, дзякуючы асаблівасьцям сёлетняй вясны, павінна быць праведзена ў самы кароткі тэрмін—дзён у 20-25.

Адказ атрымаем, калі разгледзім асноўныя моманты падрыхтоўкі кожны паасобку.

Пачнем з вывазкі гною. Згодна пляпаў веснавой пасеўкампаніі па асноўных 10 ЦРК падлягала вывазцы 232.299 тон, вывезена-ж да 1/V 141.052 тоны. Трэба адзначыць, што кампанія па вывазцы гною пачалася яшчэ з восені, як толькі кончылася зяблевае ўзорваньне. Часу для выкананьня пляну было досыць, але, як відаць, ЦРК недаацанілі гэтага моманту і не ўдзялілі яму належнае ўвагі, а зараз некаторым ЦРК давядзецца з вялікай напружанасьцю дагнаць упушчаны час, і вывазка тоны гною ім абыйдзецца рублёў да 9 (Барысаў). Між тым вывазка гною для прыгарадных гаспадарак мае рашаючае значэньне, бо большая частка зямель, якія прыходзіцца засяваць гароднінай і караньплодамі, раней пад гэтымі культурамі ня была, ня добра апрацоўвалася і ня ўгнойвалася.

Попелу трэба было сабраць 3.448 тон, а сабрана 1.377 тоны, ці 40 проц., вапны—3.518 тон, вывезена 1.074 тоны, ці 30 проц. Што датычыцца штучных угнаеньняў,

якія завозяцца ў БССР, дык іх падлягае завозу 4.433 тоны, а завезена 1.903 тоны, ці 43 проц.

Ня меншае значэньне для пасьпяховасьці правядзеньня пасеўкампаніі мае і цягавая сіла. Патрэбна для гаспадарак па плянавых разьліках 2.754 коняй. Маецца 2450. Процант забесьпячэньня жывой цягавай сілай 85. Трактараў патрэбна 120. Уласных трактараў у гаспадарках ёсьць 20 шт. Для папаўненьня не хапаючай колькасьці трактараў Белкалгассаюз ужо некалькі месяцаў таму назад павёў кампанію за тое, каб Менскі ўпаўнаважаны Трактарацэнтру заключыў умову на абслугоўваньне прыгарадных гаспадарак у час веснавой пасеўкампаніі трактарамі МТС і дабіўся на гэта згоды Трактарацэнтру. Былі таксама вынесены па гэтаму пытаньню пастановы дырэктыўных органаў, але ўпаўнаважаны Трактарацэнтру доўга валатузіў, пакуль не атрымаў вымовы, і толькі нядаўна заключыў умову на прадастаўленьне прыгарадным гаспадаркам 58 трактараў. Такім чынам, забясьпечанасьць мэханічнай цягавай сілай пры выкананьні ўсімі МТС дагавароў дасягае 65 проц.

Акрамя таго, у сувязі з прырэзкай некаторым ЦРК (Віцебск, Гомель, Бабруйск) у самы апошні момант зямельнай плошчы, патрэбнасьць у цягавай сіле павялічыцца.

Трэцім рашаючым момантам зьяўляецца рабочая сіла. Патрэбна сталых рабочых 4.296, сэзонных 5.200 ч. Ёсьць ў гаспадарках 3.455 сталых, ці 80 проц., а сэзонных 1.060 ч., ці 20 проц. патрэбнасьці. Пытаньню вярбоўкі рабсілы ЦРК таксама ня ўдзелена дастатковай увагі. Яшчэ даўно паміж БКС і НКП заключана ўмова, па якой да кожнага ЦРК прымацованы раёны, дзе яны могуць вербаваць рабочых. Але гэту магчымасьць ЦРК не скарысталі належным чынам. Трэба адзначыць, што значнай перашкодай у вярбоўцы рабсілы зьяўляецца адсутнасьць жылых памяшканьняў у прыгарадных гаспадарках.

Недахоп рабсілы неабходна будзе папоўніць прымацаваньнем прадпрыемстваў да прыгарадных гаспадарак. Да гэтага часу заключаны ўмовы паміж ЦРК і прадпрыемствамі: па Менску на 60 тыс. працадзён, па Віцебску—на 40 тысяч, па Гомелю на 38 тыс., па Бабруйску—40 тыс., па Воршы—9 тыс., па Полацку—20 тыс., а ўсяго на 247 тыс. працадзён, ці 35 проц. патрэбнасьці. Што датычыцца сельскагаспадарчага інвэнтару, дык, акрамя складаных машын, як бульба-саджалкі, тукавыя сеялкі і інш. магчыма лічыць, што гаспадаркі ў асноўным забясьпечаны.



**Сеюць, засяваюць чышчаным зернем**

Забясьпечанасьць насеньнем характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Па бульбе раньняй | забясьпеч. | дасягае | 35% |
| „ гароху | „ | „ | 87 „ |
| „ фасолі | „ | „ | 50 „ |
| „ бабох | „ | „ | 15 „ |
| „ цыбулі | „ | „ | 70 „ |
| „ капусьце | „ | „ | 220 „ |
| „ гуркох | „ | „ | 95 „ |
| „ буракох | „ | „ | 62 „ |
| „ моркве | „ | „ | 150 „ |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| „ | памідорах | „ | „ | 50 „ |
| „ | кармавых буракох | „ | „ | 140 „ |
| „ | кукурузе | „ | „ | 106 „ |
| „ | канюшыне | „ | „ | 75 „ |
| „ | сэрадэлі | „ | „ | 11 „ |
| „ | лубіне | „ | „ | 13 „ |

Наконт парніковых рам маюцца на 1/V наступныя зьвесткі: заложана і засеяна 41.274 рамы, з іх засеяна раньняй гароднінай 12.526 рам, астатнія засеяны рассадай гародных культур.

У сучасны момант ідуць апрацоўка глебы і пасеў. Усім ЦРК разасланы нормы выпрацоўкі за дзень і за пяцідзёнку. Кожную пяцідзёнку ЦРК павінны прысылаць падрабязныя зводкі аб выкананых работах, але пакуль што дасканалых зьвестак ад усіх ЦРК няма.

З усяго сказанага вынікае, што ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы ёсьць шмат прарываў і толькі пры напружанай працы мэтодамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, пры актыўнай дапамозе партыйных, профсаюзных і грамадзкіх організацый магчыма будзе поўнасьцю і пасьпяхова выканаць заданьне партыі і ўраду, і спажыўкоопэрацыя зможа выйсьці з гэтай кампаніі пераможцай.

---

Гурвіч-Віленскі

## Такім павінен быць зачынены разьмеркавацель

Чым адрозьніваецца зачынены разьмеркавацель ад звычайнае крамы?

На гэтае пытаньне, зайшоўшы ў разьмеркавацель, цяжка адразу знайсьці адказ. Тая-ж чарга, бруд, грубасьць, адсутнасьць найноўшых мэтодаў організацыі работы і г. д. Тым часам ёсьць рад зачыненых разьмеркавацеляў, якія паказалі, як трэба і можна пры зацікаўленасьці загадчыка магазыну, супрацоўнікаў і рабочай грамадзкасьці сапраўды палепшыць абслугоўваньне спажыўца. Вопыт гэтых прыкладных разьмеркавацеляў павінен быць перанесены на ўсе іншыя. Разьмеркавацель № 10 пры абутковай фабрыцы з першых дзён свайго існаваньня ўзяўся пабаявому за сьмелую перабудову сваёй работы, за ўвядзеньне найноўшых мэтодаў абслугоўваньня спажыўца, зьмятаючы са свайго шляху консэрватыўныя настроі многіх вопытных коопработнікаў, якія лічаць, што ліквідацыя чаргі немагчыма да таго часу, пакуль ня будуць зьнішчаны часовыя цяжкасьці забесьпячэньня. З былое крамы № 19, якая слынула вялізнаю чаргою, дзякуючы ўмеламу расплянаваньню аддзелаў і перааб сталяваньню ўсяго магазыну, у якім прымалі ўдзел рабочыя і тэхнічныя сілы фабрыкі, атрымаўся сьветлы, утульны і добры магазын. З правага боку яго знаходзіцца продуктовае аддзяленьне з сваім падсобным складачным памяшканьнем, дзе адбываюцца папярэдняе разважваньне і падрыхтоўка папярэдніх заказаў. З левага боку—прамтаварнае аддзяленьне: тут ляжаць гатовае адзеньне, абутак, посуд ды інш. Такім разьмеркаваньнем прадугледжваецца поўнае аддзяленьне продуктаў ад прамтавараў, гэтым самым дасягнулі правільнай загрузкі магазыннай плошчы, а таксама ўніклі зьбіраньня спажыўцоў на аднэй плошчы і няўхільнага пры гэтым псаваньня продуктаў.

Кожнае з аддзяленьняў мае сваю касу. У часе вялікіх выдач функ-

цыянуе трэцяя запасная каса. Гэтым дасягнута поўнае зьнішчэньне звычайнае чаргі каля касы.

Разьмеркавацель № 10 абслугоўвае 4 тысячы 350 чалавек. Лічба досыць вялікая—разьмеркавацель абслугоўвае 3 прадпрыемствы. Таму ўся ўвага была зьвернута на тое, каб магазын № 10 перайшоў да папярэдніх заказаў, скарыстаўшы вопыт разьмеркавацеля друкароў. Дзякуючы добрай падрыхтоўцы як у разьмеркавацелі, так і на самым прадпрыемстве, дзіцячы паёк быў выдан поўнасьцю па папярэдніх заказах, што было вельмі зручным для спажыўца. Усе дзіцячыя наборныя лісткі здаюцца ў разьмеркавацель, дзе захоўваюцца ў спэцыяльных конвэртах па парадку нумароў. У конвэрце захоўваецца столькі наборных лісткоў, колькі дзяцей мае даная сям'я. Гэтая сыстэма дае магчымасьць разьмеркавацелю мець у сябе ўсе наборныя лісткі, загадзя падрыхтаваць усе дзіцячыя пайкі, не чакаючы нават спэцыяльнага на гэта заказу. Адзнака ў наборным дакуманце робіцца ў адсутнасьці пайніка. Спажыўцу застаецца падыйсьці да прадаўца, сказаць свой нумар і атрымаць увесь запакаваны паёк. Гэтая сыстэма пазбавіла спажыўца патрэбы цягаць з сабой наборныя кніжкі і досыць часта губляць іх.

Пасьля вопыту з дзіцячым пайком разьмеркавацель ужо прыступіў да выдачы ўсім спажыўцом, ужываючы гэтую самую сыстэму. Магазын арганізаваў дастаўку ўдарнікам продуктаў да хаты. Ня дрэнна пастаўлена інформацыя спажыўца. Звычайнае ў чарзе „што даюць" не пачуеце ад прымацаваных да 10-га разьмеркавацеля.

На прадпрыемстве ў самым магазыне шляхам спэцыяльнае дошкі спажывец інформуецца аб прыбываючых і належачых да выдачы таварах. Няма лішніх пытаньняў да прадаўцоў пра норму, катэгорыі і сьпісы. На дошцы выразна паказана норма для кожнага сьпісу, катэгорыі, а таксама талён, па якому выдаецца той ці іншы тавар. Паявыя ўзносы бяруцца непасрэдна на прадпрыемстве пры атрыманьні зарплаты. 1 чэрвеня абутковая фабрыка цалкам ўнясе пай. Шмат прароблена ў справе змаганьня са стратамі. Норма натуральнае страты даведзена да 0,03 процантаў. У гэтых адносінах вялікую ролю адыграла рацыянальнае абсталяваньне, пры якім няма лішняе растраты, усушкі і г. д. Скрыні ў прылаўках двухбаковыя, засыпка іх адбываецца са складачнага памяшканьня. Нямя патрэбы пераносіць тавар па ўсім магазыне. Дзякуючы правядзеньню



**Г. Менск. Разьмеркавацель № 10. Прамтаварнае аддзяленьне**

раду рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, умелай організацыі работы, магазын за час свайго існаваньня меў браку і псаваньня на 3 р. 58 кап. Абслугоўваючы пэрсонал разьмеркавацеля, які мае ўнівэрсальны асортымэнт, складаецца з 313 чалавек. Пры ўваходзе ў разьмеркавацель адразу кідаецца ў вочы чыстата: усюды расстаўлены скрыні для сьмецьця. На прылаўках у самым магазыне няма лішніх рэчаў, няма звычайнае нагрмаджанасьці, усё мае сваё месца. Вагі блішчаць—нельга даць веры, што

яны былі толькі што ў рабоце. Разьмеркавацель мае свой культурны куток, штодзённа сьвежыя газэты. Рэдка калі пачуеш, зайшоўшы ў 10 разьмеркавацель, хто апошні. Няма звычайнае сутармы. У самым магазыне чыстата, сьвятло, няма шуму, бо папярэдняя работа да водпуску продуктаў ідзе ў падсобным памяшканьні і дазваляе зайшоўшаму спажыўцу першым падыйсьці да прылаўку пачытаць газэту. Гэтых посьпехаў разьмеркавацель дасягнуў дзякуючы актыўнаму, штодзённаму ўдзелу грамадзкасьці. Кожнае 1-е вывешваецца сьпіс дзяжурных крамкомісіі на ўвесь месяц. Рэдка калі зойдзеш у разьмеркавацель і не застанеш каля століка дзяжурнага. Ва ўсіх адчуваецца адказнасьць. У выпадку, калі дзяжурны ня можа зьявіцца, ён загадзя папярэджвае аб гэтым. Побач з кнігай скаргаў ёсьць кніга прапаноў. У апошняй ёсьць вялікая патрэба. Туды ўносяць спажыўцы свае прапановы. Скаргаў меней, усякія непаразуменьні рэгулююцца на месцы. Такі прыблізна малюнак гэтага прыкладнага разьмеркавацеля. Грамадзкасьць фабрыкі не памылілася ў сваім вылучэнцу Аксэльродзе. Ён здолеў мобілізаваць увесь апарат на ўдарныя тэмпы работы. Разьмеркавацель № 10 з посьпехам паказаў, як можна пры соцыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве правесьці рацыяналізатарскія мерапрыемствы, правільную організацыю работы, як можна добра наладзіць абслугоўваньне спажыўца. 10-ы разьмеркавацель мае яшчэ шмат няскончанай работы: яшчэ не організаваны куток „Маці і дзіця“, безнаяўныя разьлікі і г. д. 10-ы разьмеркавацель паказаў, што ён умее па-бальшавіцку перамагаць цяжкасьці і наладжваць сваю работу. Разьмеркавацель абутковай фабрыкі зьяўляецца сур'ёзным прэтэндэнтам на першае месца ва ўсебеларускім конкурсе. Яго вопыт павінен быць перанесены на ўсе разьмеркавацелі БССР.



**Мэханізаваны комсамольскі коопэратыў у Ленінградзе**

---

# Грамадзкае харчаваньне

К. А-н

## Чарговыя задачы грамадзкага харчаваньня

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) ад 21-XII 30 г. адзначыў, што адным з важнейшых недахопаў спажкоопэрацыі зьяўляецца „слабасьць работы па організацыі і ўпарадкаваньню грамадзкага харчаваньня“.

Якасьць абедаў у большасьці сталовых надзвычайна нізкая, сыстэма водпуску абедаў яшчэ не рацыяналізавана, наглядаюцца чаргі, антысанітарыя, грубыя, нядбайныя адносіны і інш.

Спынімся тут на некаторых мерапрыемствах, якія павінны быць праведзены для палепшаньня грамадзкага харчаваньня.

Неабходна ў бліжэйшы час распрацаваць цьвёрдыя нормы продуктаў для паасобных профэсіянальных і ўзросных груп, часовыя нормы, з вучотам маючыхся ў наяўнасьці харчовых рэсурсаў, улічваючы дэфіцытнасьць тлушчаў, замену іх іншымі продуктамі, з тым, каб у межах маючыхся фондаў дабіцца максымальнага ўзроўню калёрыйнасьці, бялковага і вугляводзістага мінімуму. Нормы гэтыя павінны быць складзены з вучотам неабходнасьці максымальнага скарыстаньня ўнутраных рэсурсаў, за кошт больш поўнага скарыстаньня продуктаў, скарачэньня водкідаў і ў прыватнасьці пераапрацоўкі бульбы на крухмал, вываркі касьцей і некаторых частак рыбы, пераапрацоўкі ўнутранасьцяй рыб на харчовае сала; адначасова трэба распрацаваць нормы водкідаў па паасобных відах продуктаў; устанавіць прэміяваньне пэрсоналу як за лепшую пастаноўку працы на прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня, так за скарыстаньне водкідаў, абавязаўшы адміністрацыйны пэрсонал сталовых вывешваць на відным месцы нормы выхадаў для сьведамленьня спажыўцоў. Далей трэба вызначыць нормы бракеражу гатовай продукцыі для прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня, устанавіўшы сыстэму абавязковай бракоўкі продукцыі, для чаго ўвесьці пасаду бракоўшчыкаў (у дробных прадпрыемствах гэтыя абавязкі можа выконваць загадчык), пры чым не скарыстаны брак не аплочваецца, а скарыстаны ўнутры прадпрыемства або для водпуску аплочваецца ў разьмеры 50 проц. зьдзельных расцэнак.

У мэтах барацьбы з бракам саюзу Нархарч неабходна разгарнуць масавую працу, організаваўшы брыгады па палепшаньні якасьці і выстаўкі браку. Усе ЦРК абавязаны весьці рэгулярны нагляд за якасьцю страў, для чаго практыкаваць праз лябораторыі рэгулярныя выемкі абедаў для аналізаў, запісы калёражу, пры чым у выпадку зьніжэньня калёрыйнасьці прымаць адпаведныя меры.

Адміністрацыя сталовых павінна дапушчаць раздачу страў толькі пасьля агляду і спробы апошніх.

Асноўнай прычынай нізкай якасьці продукцыі прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня зьяўляецца нізкая кваліфікацыя кадраў. Акрамя плянавай падрыхтоўкі кадраў, вялізнае значэньне набывае работа сярод маючагася пэрсоналу па падвышэньню кваліфікацыі праз курсы і гурткі. Саюзу Нархарч неабходна значна пасіліць работу па ўсіх галінах масавай вытворчай асьветы шляхам організацыі лекцый, дыспутаў, экскурсій, выставак, кіно-

сэансаў на вытворчыя тэмы. ЦРК павінны аказваць шырокае садзейнічаньне, прадастаўляючы памяшканьні для масавай працы і адпускаючы неабходныя сродкі:

Далей неабходна разгарнуць працу па перабудове сталовых па тыпу сталовай заводу „Электропровад", які дае вялікі эфэкт у сэнсе зьнішчэньня чаргі і найлепшага і хуткага абслугоўваньня рабочых на прадпрыемствах, рацыяналізуючы працу ўнутры сталовай; дабівацца, каб уся сетка сталовых і, у першую чаргу, зачыненыя сталовыя, поўнасьцю перайшлі ў хутчэйшы тэрмін на гэты мэтод працы. Трэба павесьці шырокую масавую кампанію па барацьбе за якасьць шляхам прыцягненьня рабочага актыву (сталовыя санкомісіі), наладжваючы працу па мэтоду соцспаборніцтва.



Надворы выгляд новай грамадзкай сталовай

Вялізарнае значэньне ў пытаньні палепшаньня якасьці страў мае барацьба са стратамі і, у прыватнасьці больш поўнае скарыстаньне прадуктаў, скарачэньне водкідаў, правільная ўтылізацыя адходаў, рацыянальнае скарыстаньне рабочай сілы. Вакол барацьбы са стратамі і за ўсямернае скарыстаньне мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў неабходна організаваць грамадзкасьць, устанавіўшы адказнасьць адміністрацыйнага пэрсоналу за збор, хаваньне і ўтылізацыю водкідаў, увесьці прэм'яваньне пэрсоналу за скарачэньне адходаў і за збор тлушчаў з моечных вод, што мае вялікую каштоўнасьць для тлушчавай прамысловасьці. На базе адходаў грамадзкага харчаваньня ўсямерна разьвіваць сьвінаадкормачныя пункты.

Грамадзкае харчаваньне зьяўляецца маладой галінай прамысловасьці, якая ў мінулым разьвівалася па-саматужнаму. Для таго, каб сапраўды паставіць яе на належную вышыню, неабходна падвесьці навуковы фундамэнт, у сувязі з чым ва ўвесь рост паўстае пытаньне аб стварэньні ў Беларусі інстытуту харчаваньня. У нас ёсьць шмат інстытутаў, але ўсе яны ня цікавяцца гэтым важнейшым вучасткам соцыялістычнай перабудовы нашага быту, а санітарна-гігіенічны інстытут нарком аховы здароўя нават адмовіўся прадаставіць лябораторыю для мэт грамадзкага харчаваньня. Толькі пры ўмове самага шырокага ўдзелу навуковых організацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці спажыўкоопэрацыя выканае задачы масавага харчаваньня рабочага насельніцтва.

З. Пецярэнка

# Наладзім грамадзкае харчаваньне ў колгасах—організуем пасьпяховае выкананьне сяўбы і ўборачнай кампаніі

Веснавыя палявыя работы ў колгасах знаходзяцца ў поўным разгары. Асаблівасьці сёлетняй вясны (позьні сеў) ставіць перад усімі організацыямі і ўсёй грамадзкасьцю колгасьнікаў пытаньне надзвычайнай напружнасьці ў выкананьні другой бальшавіцкай вясны.

Каб на палявых работах больш рацыянальна скарыстаць рабочы час, каб даць магчымасьць уцягнуць у колгасную вытворчасьць больш жаночых працоўных рук, трэба выключна па-ўдарнаму ўзяцца за падрыхтоўку і організацыю грамадзкага харчаваньня ў колгасах.

Зараз грамадзкае харчаваньне на полі ў часе веснавых палявых работ мае выключна важнае гаспадарчае і палітычнае значэньне. Правільна організаванае грамадзкае харчаваньне ўзьніме вытворчасьць працы колгасьнікаў і дапаможа пасьпяхова выканаць пляны веснавой сяўбы.

Ад таго, як будуць колгасьнікі забясьпечаны на полі гарачай стравай, будзе залежаць узьняцьце працоўнай дысцыпліны і продукцыйнасьць працы, што ў сваю чаргу павінна садзейнічаць і дапамагаць у часе веснавых палявых работ. Факты мінулага году яскрава паказалі, што там, дзе ня было організавана грамадзкае харчаваньне, там зьніжалася продукцыйнасьць працы колгасьнікаў.

Вельмі часта колгасьнік, замест таго, каб атрымаць полудзень або сьнеданьне на месцы працы ў полі, ідзе да дому, нават надалёкую адлеглясьць ад працы, спазьняецца на работу і гэтым самым сьвядома разбазарвае працоўны час, асабліва ў часе ўдарных палявых работ. Грамадзкае харчаваньне ў колгасах набывае важнае значэньне ящчэ і таму, што яно зьвязана з уцягненьнем жанчын-колгасьніц у вытворчае жыцьцё колгасаў. Гэтым самым жанчына-колгасьніца вызваляецца ад адзінаасобнай кухні і аддае ўсю сваю працоўную сілу і час на выкананьне плянаў веснавой сяўбы.

Яшчэ ня ўсе раённыя організацыі, праўленьні колгасаў і асабліва спажывецкая коопэрацыя зразумелі сутнасьць і важнасьць грамадзкага харчаваньня, і, замест баявых тэмпаў работы і мобілізацыі ўсёй грамадзкасьці на ліквідацыю прарыву, пануе самацёк. Як вынік такога самацёку, мерапрыемствы гэтай важнейшай і ўдарнай часткі другой бальшавіцкай сяўбы па сутнасьці сарваны. Недаацэнка і розныя разважаньні аб організацыі грамадзкага харчаваньня ў шэрагу месц і зьявіліся галоўнай прычынай зрыву. Яшчэ да гэтага часу паміж Белкоопсаюзам і Колгасцэнтрам ідуць перамовы аб тым, хто павінен кіраваць і адказваць за організацыю грамадзкага харчаваньня ў колгасах, дзе атрымаць абсталяваньне і г. д. Што робіцца мясцох у раёнах на сёньняшні дзень, ні Белкоопсаюз, ні Колгасцэнтр ня ведаюць. І гэта ў той час, калі ўдарныя палявыя работы даўно ўжо пачаліся. Бязумоўна гэтыя настроі і разважаньні адбіліся і на рабоце нізавых організацый, дзе, замест правядзеньня самастойна-практычнай і ўдарнай работы па ліквідацыі прарыву, чакаюць дырэктыў з цэнтру. Прыкладна, Брагінскі і Хоцімскі райколгассаюзы пішуць: „лік сталых сталовак, вызначаны ў колькасьці 7, але да

організацыі і падвозкі гарачай стравы ў поле не забясьпечаны (?) і не падрыхтаваліся". А вось яшчэ: Бабруйскі райколгассаюз на паседжаньні пасеўнай тройкі пры Колгасцэнтры адказвае: „імкненьне да організацыі грамадзкага харчаваньня ў колгасах вялікае, але-ж мы да гэтае справы яшчэ не приступілі".

Такое становішча мы маем і ў шэрагу іншых раёнаў, дзе ня толькі



**У колгаснай сталовай рыхтуецца сьнеданьне для кольгасьнікаў**

не прыступілі да працы, але нават ня вызначылі сталых пунктаў для організацыі сталовак і ачагоў.

Колгасцэнтр СССР даў контрольнае заданьне, каб у часе палявых работ ахапіць грамадзкім харчаваньнем 70—75 проц. колгасьнікаў. Чамусьці Белколгасцэнтр і Белкоопсаюз гэтае контрольнае заданьне зьменшылі: замест:—70—75 проц., вызначылі лічбу, якая прадугледжвае ахапіць колгасьнікаў грамадзкім харчаваньнем каля 15 проц. Але і гэтыя 15 проц. на сёньняшні дзень амаль ня выкананы. Цікава, чым могуць тлумачыць Колгасцэнтр і Белкоопсаюз невыкананьне контрольных лічбаў па організацыі грамадзкага харчаваньня ў колгасах? Ці тут адсутнасьць часу, ці няўпэўненасьць у мажлівасьці мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў колгасаў і колгасьнікаў, ці проста опортуністычная недаацэнка аднае з непарыўных частак другой бальшавіцкай сяўбы? Мы толькі ведаем, што Колгасцэнтр і Белкоопсаюз і сёньня яшчэ спадзяюцца на раённыя організацыі, якія самі павінны выканаць і перавыканаць іх контрольныя лічбы. А ў выніку маем, што з ліку запроектаваных у колгасах сталовых організавана і пабудавана толькі 28. Плян па забесьпячэньні катламі выкананы на 31 проц., тэрмосамі—на 25 проц., кіпяцільнікамі—на 30 проц. Плітамі і дробным абсталяваньнем плян зусім ня выканан. Ні аб якай рабоце па падрыхтоўцы кадраў для забесьпячэньня організаваных сталовак, ні Колгасцэнтр, ні Белкоопсаюз не паклапаціліся, а спадзяваліся на самацёк. І толькі тады, калі ўжо пачаліся ўдарным тэмпам палявыя работы, Колгасцэнтр схамянуўся, што організацыя грамадзкага харчаваньня ў колгасах па сутнасьці правалена. Каб зваліць з сябе віну, Колгасцэнтр 21 красавіка г. г. дае дырэктыву райколгассаюзам, дзе адзначае, што гэтая работа ў раёнах ідзе злачынна-марудна, тым часам як сам ня ведае, у якім яно становішчы фактычна знаходзіцца. У выніку вышла, што Белкоопсаюз і Колгасцэнтр паміж сабою займаліся перамовамі, а раёны чакалі формальных дырэктыў, а справа грамадзкага харчаваньня на сёньняшні дзень цалкам правалена. Такое становішча надалей нецярпіма. Разважаньням аб немагчымасьці мобі-

лізацыі мясцовых рэсурсаў і самацёку павінен быць пакладзен канец. Неабходна рашуча ўдарыць па конкрэтных носьбітах і зрыўшчыках і па той опортуністычнай недаацэнцы ў справе організацыі грамадзкага харчаваньня, што мы наглядаем ў большасьці ня толькі раённых організацый, але нават і ў цэнтры. Трэба па-ўдарнаму ліквідаваць прарыў, узяць усю работу Райколгассаюзаў, спажывецкай копэрацыі і праўленьняў колгасаў у пытаньні грамадзкага харчаваньня на грамадзкі буксір і контроль; зане спадзяючыся на самацёк і пасылку іх з цэнтру. А гэтыя мажлівасьці на мясцох у колгасах ёсьць.

Там, дзе будуць ужо ўстаноўлены сталыя пункты організацыі сталовак у колгасах, трэба заразжа разгарнуць шырокую работу па падрыхтоўцы месц для хаваньня продуктаў. Трэба павесьці шырокую работу сярод колгасьнікаў і асабліва сярод жанчын-колгасьніц аб організацыі сталай і самастойнай базы пад сталоўкі, організаваць і дабіцца адводу спэцыяльных гародаў, апрацоўваючы іх сі-



Там, дзе наладжана грамадзкае харчаваньне. Сталоўка ў колгасе ў часе сяўбы

раз-жа вызначыць пункты організацыі сталовак і падвозных пунктаў забесьпячэньня гарачай стравай ў колгасах; разгарнуць шырокую работу па мобілізацыі мясцовых рэсурсаў колгасаў і колгасьнікаў, як та: збор катлоў, посуду, пліт і інш. дробнага абсталяваньня, ламі колгасьнікаў, організацыі адкормачных пунктаў, пераводзячы ўсё гэта ў непадзельны фонд і базу для сталовак колгасаў. Патрэбна рабіць гэта безадкладна, каб ужо да ўборачнай кампаніі сталоўкі поўнасьцю забясьпечылі грамадзкім харчаваньнем колгасьнікаў, каб

кожная сталая сталоўка мела сталую базу існаваньня і пераводу яе на гаспадарчы разрахунак.

Трэба работу правесьці так, каб кожны колгасьнік ведаў, што арганізацыя грамадзкага харчаваньня цесна і непарыўна зьвязана з пытаньнем арганізацыі працы ў колгасах, з увядзеньнем зьдзельшчыны і цьвёрдых норм выпрацоўкі, што дасьць магчымасьць кожнаму колгасьніку больш выпрацаваць працадзён і гадзін.

Дэлегацкія сходы ў колгасах павінны з асаблівай увагай аднесьціся да гэтае справы, бо ініцыятарам і застрэльшчыкам у арганізацыі грамадзкага харчаваньня павінна зьявіцца жанчына-колгасьніца. Трэба скласьці брыгады з жанчынколгасьніц па зборы продуктаў, арганізацыі і падвозкі стравы ў поле і г. д., дабіцца арганізацыі кароткатэрміновых курсаў па падрыхтоўцы кухароў, укомплектоўваючы іх асабліва з тых колгасаў, дзе гэтакіх кадраў няма. Распрацаваць інструкцыю Колгасцэнтру СССР аб тэхніцы арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў колгасах, якая ёсьць ў райколгассаюзах. Усю работу правесьці шляхам соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж колгасамі і дэлегацкімі сходамі на лепшую організаваную сталоўку і падвозку гарачай стравы ў поле. Контрольнае заданьне Колгасцэнтру павінна быць ня толькі *выканана*, але і перавыканана, бяручы асноўны ўпор на мобілізацыю ўнутраных рэсурсаў колгасаў і колгасьнікаў, разгортваючы вакол гэтага шырокую работу.

Трэба памятаць, што той колгас, які добра організуе грамадзкае харчаваньне, хутчэй справіцца з выкананьнем плянаў веснавой сяўбы і ўборачнай кампаніі. Таму зараз перад кожным колгасьнікам паўстае задача разгортваньня ўдарных тэмпаў у арганізацыі грамадзкага харчаваньня, не спадзяючыся на самацёк і дапамогу з цэнтру. Мобілізуем усе ўнутраныя рэсурсы колгасаў і колгасьнікаў пры дапамозе Райколгассаюзаў і спажывецкай коопэрацыі на арганізацыю грамадзкага харчаваньня і зробім рашучы пералом у гэтай справе.

---

А. Курдзін

## Патрэбен рашучы пералом

Жыравая прамысловасьць у сучасны момант ужывае вялікую колькасьць харчоўных жыроў для мылаварэньня і касмэтычных патрэб. Замена гэтых жыроў тлушчам мае вялізарнае значэньне для палегчаньня рабочага забесьпячэньня. Скарыстаньне ўтыльных жыроў стварае новую базу сыравіны. Сыстэма грамадзкага харчаваньня па БССР на працягу 1931 году можа даць нашай прамысловасьці з моечных вод каля 20 тысяч клгр. утыльжыроў, што складае 12 тысяч руб., якія да гэтага часу ўваходзілі ў каналізацыю.

Сама тэхніка здабываньня гэтага жыру надзвычайна простая і вытвараецца праз нескладаныя апараты „жыралоўкі“, або прымітыўным спосабам у звычайных ванначках, куды зьліваецца вада ад мойкі талерак, бо жыр лягчэй вады, усплывае на паверхню, і калі вада застывае, ён зьнімаецца. Гэты процэс ня зьвязан ні з якімі цяжкасьцямі і выдаткамі, а толькі вымагае зацікаўленасьць з боку абслугоўваючага пэрсоналу і адпаведных організацый.

Але справа гэтая ў нас па БССР праходзіць вельмі дрэнна і марудна, ня гледзячы на тое, што з боку Белкоопсаюзу дадзены шматлікія і дакладныя растлумачэньні і інструкцыі. Нашыя ЦРК яшчэ не

ўсьвядомілі ўсёй важнасьці гэтага пытаньня і не аддаюць яму належнай ўвагі.

Возьмем, напрыклад, Менскі ЦРК. Некаторыя сталоўкі Менску ўжо зацікавіліся гэтым пытаньнем і распачалі збор утыльжыроў, але з боку МЦРК няма ніякага кіраўніцтва і ніякіх паказаньняў наконт хаваньня, ачысткі і ўкладкі гэтага жыру ў адпаведную для перавозкі тару, таксама ня вызначана база для прыёму і згрупаваньня яго ў адно месца, у выніку чаго жыр гіне, ініцыятыва мас глушыцца, выклікаючы правільныя нараканьні працаўнікоў. Жыралоўкі ўстаноўлены ў 4 сталовых, але эфэкт слабы, пры чым адзін з загадчыкаў (стал. друкарні імя Сталіна) заявіў, што ён нават ня ведае, для якой мэты пастаўлен гэты, прыбор, і на працягу цэлага месяца ім не карыстаўся.

Замест таго, каб быць на чале гэтай справы і ўсямерна дапамагаць пасьпяховаму яе правядзеньню, замест таго, каб згрупаваць грамадзкасьць вакол гэтага пытаньня і шляхам соцспаборніцтва і прэм'яваньня заахвочваць працаўнікоў грамадзкага харчаваньня, МЦРК апынуўся ў баку і праяўляе агідную неахайнасьць. Дзякуючы такім адносінам гэтае мерапрыемства, накіраванае да мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў, знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Час пакласьці канец такой недапушчальнай бязьдзейнасьці. Нельга цярпець, каб каштоўны тэхнічны жыр выкідваўся ў каналізацыю. Патрэбен рашучы пералом.

**Чарышнікаў**

## Зьмена тэхнічнага процэсу работы апраўдваецца

Новыя мэтады работы ня толькі палепшылі якасьць печанага хлеба, але і зьнізілі сабекаштоўнасьць. Менш амортызуецца інвэнтар, зьменшылася распыльваньне мукі з прычыны скарачэньня закваскі. Цэнтральныя гарады СССР, як Ленінград, Масква, а таксама гарады БССР Менск, Віцебск, Гомель перайшлі на новы мэтад работы. Полацкая хлебапякарня таксама не жадае адставаць ад другіх хлебазаводаў і пякарняў—яна перайшла на новы мэтад выпечкі хлеба. Асабліва значную работу па пераводзе пякарні на новы мэтад правялі майстры пякарні № 1—Ланькоўскі, Арлееўскі, Філіпенка і Да, отка.

Цяпер работа ідзе цалкам па новаму мэтаду, Пякарня выпякае беапарным мэтадам. Адміністрацыя і заўкомітэт павінны прыняць усе меры да замацаваньня гэтага дасягненьня. Вытворчыя нарады павінны абмеркаваць гэта пытаньне і сачыць за выкананьнем дасягнутага.

З боку рабочых хлебапякарні, з боку хлебнага інспэктара т. Хлябоўскага (ён быў спачатку супроць увядзеньня новых мэтадаў) і дзяржбракера т. Герчанка павінна быць зроблена садзейнічаньне і дапамога ў рабоце майстраў ва ўсіх пякарнях. Трэба правесьці ў жыцьцё пастанову 1-га зьезду саюзу мукамольна-хлебнай прамысловасьці і перавесьці выпечку хлеба на новы мэтад работы, які бясспрэчна паляпшае якасьць і зьмяншае сабекаштоўнасьць.

**Ад рэдакцыі:**

У № 1—2 часопісу „Коопэрацыя БССР" быў зьмешчаны на гэту тэму артыкул т. Нісэнбаўма „Тэхніка выпечкі хлеба". Зараз мы друкуем першыя весткі аб пераходзе на новы мэтад работы. У хуткім часе будзе дадзены артыкул аб выніках пераводу хлебапякарняў на новы мэтад работы.

# У дапамогу практычнай рабоце

П. Рубін

## Арганізацыя і праца коопбюро на прадпрыемстве

Вялізарны ўзрост социялістычнай гаспадаркі надае пытаньням рабочага забесьпячэньня, а адсюль і працы спажывецкай кооперацыі асабліва важнае значэньне. Тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва рашуча патрабуюць ад спажывецкай кооперацыі хуткай перабудовы яе працы.

Выкананьне ўскладзеных на спажывецкую коопэрацыю вялізарных задач патрабуе актыўнага падтрыманьня шырокіх рабочых мас і разгортваньня шырокага рабочага контролю над яе працай.

Асноўныя задачы рабочага контролю выразна сформуляваны ў пастанове ЦК УсеКП(б) ад 6 верасьня 1930 г. „Рабочыя масы павінны быць мобілізаваны для дапамогі коопэрацыі, для шырокага рабочага контролю над яе штодзённай працай. Рабочы контроль павінен быць накіраваны ў першую чаргу на ліквідаваньне прарываў у вытворчасьці, загатоўках, перавозках, захаваньні і разьмеркаваньні харчовых продуктаў і іншых прадметаў шырокага спажываньня, на ўсямернае скарыстаньне мясцовых рэсурсаў, на разгортваньне коопэрацыйнай вытворчасьці (гародніцтва, малочныя фэрмы, сьвінагадоўля і інш.) і на палепшаньне грамадзкага харчаваньня“.

Усё сказанае ў значнай меры павялічвае задачы коопбюро на прадпрыемствах. Калі раней існаваўшыя на прадпрыемствах Беларусі коопбюро і коопэрацыйна-крамныя комісіі займаліся амаль што выключна разьмеркаваньнем дэфіцытных тавараў, то задачы коопбюро ў сучасны момант значна павялічваюцца. Паварот спажывецкай коопэрацыі тварам да вытворчасьці патрабуе і ад коопбюро зусім іншых мэтодаў, форм і *кірунку сваей* работы чым гэта было да апошняга часу.

У адпаведнасьці з зацьверджаным Цэнтросаюзам і ўзгодненым з УсеЦСПС палажэньнем, коопбюро організуюцца на ўсіх прадпрыемствах і ўстановах, якія маюць свае фабзаўмясцкомы. Уцэхах, дзе ёсьць свае цэхавыя профкомітэты, абіраюцца таксама цэхавыя коопбюро. У тых прадпрыемствах, дзе ёсьць асобныя зьменныя профкомітэты, мэтазгодна замест цэхавых абіраць зьменныя коопбюро. Коопбюро абіраюцца тэрмінам на адзін год на агульным або дэлегацкім (у прадпрыемствах з колькасьцю звыш 500 чал.) сходзе рабочых. Колькасьць членаў коопбюро ўстанаўляецца ў 5-11 чалавек.

Коопбюро павінна праводзіць сваю працу мэтодамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Пры гэтым, для лепшага ахопу ўсіх бакоў коопэрацыйнай дзейнасьці коопбюро, аналёгічна з профорганізацыямі, праводзіць сваю працу па наступных сэктарох: 1) оргмасавым, 2) рабочага контролю, 3) гаспадарчым і 4) культурна-масавым.

Як орган масавага рабочага контролю, коопбюро павінна ўсю сваю работу праводзіць, абапіраючыся на шырокія масы рабочага актыву. Для таго ствараецца вакол усіх сваіх сэктароў добры спрактыкаваны актыў з пайнікаў, які зацьвярджаецца коопбюро. Побач з

гэтым коопбюро стварае часовыя рабочыя брыгады для правядзеньня асобных ударных работ у сувязі з масавымі кампаніямі.

На сваім організацыйным пасяджэньні, якое павінна быць склікана зараз пасьля выбараў коопбюро, неабходна разглядаць наступныя пытаньні:

а) азнаямленьне з палажэньнем аб коопбюро, яго задачамі, зьместам і мэтодамі працы, б) выбары старшыні, сэкратара і скарбніка, в) вызначэньне сэктароў коопбюро і іх кіраўнікоў, г) стварэньне добраахвотнага актыву вакол коопбюро, д) чарговыя дні пасяджэньня коопбюро, е) розныя.

### Пра абавязкі членаў коопбюро

Як правіла, усе члены коопбюро працуюць у парадку грамадзкай нагрузкі і ніякай платы за сваю работу не атрымліваюць. На буйных прадпрыемствах старшыня коопбюро цалкам або часткова аслабаняецца ад сваей асноўнай работы.

У абавязкі старшыні коопбюро ўваходзіць організацыя і кіраўніцтва ўсёй працай коопбюро. Старшыня абавязаны наглядаць за сваячасовай распрацоўкай плянаў працы па сэктарох і за іх сваячасовым і поўным выкананьнем. Ён павінен наглядаць за правільнай організацыяй работы ўсяго коопактыву на прадпрыемстве, а таксама сачыць, каб кожны член коопбюро і актывісты акуратна і сваячасова выконвалі свае абавязкі і тыя заданьні, якія на іх ускладаюцца коопбюро; старшыня коопбюро робіць справаздачу аб рабоце бюро перад адміністрацыйнымі організацыямі і грамадзкасьцю.

Сэкратар коопбюро нясе адказнасьць за ўсе тэхнічныя справы бюро, як: сьпісы актыву, протоколы, розныя ведамасьці і г. д.; у яго павінны быць такія папкі:

а) пастановы і распараджэньні праўленьня і рэўкомісіі ЦРК (ЗРК), фабкому і іншых організацый, б) протоколы і пастановы коопбюро, в) протоколы і матар'ялы сталовай і крамнай комісій, рабочых брыгад, агульных сходаў і г. д., г) розныя (розная перапіска, сьпісы на авансы, на разьмеркаваньне тавараў і інш.).

Скарбнік павінен весьці ўсе грашовыя справы коопбюро: сваячасовы прыём паявых і іншых узносаў як ад зборшчыкаў, так і непасрэдна ад пайнікаў.

Члены коопбюро — кіраўнікі асобнымі сэктарамі — вядуць работу па організацыі і кіраўніцтву сэктарамі, вярбуюць у дапамогу сабе добраахвотны актыў, разьмяркоўваючы паміж ім работу, наглядаюць за яе выкананьнем, складаюць пляны работы сэктару, зацьвярджаюць іх на коопбюро і сочаць за сваячасовым ажыцьцяўленьнем гэтых плянаў.

Астатнія члены коопбюро ўключаюцца ў асобныя яго сэктары і вядуць сваю работу на падставе агульнага пляну пад кіраўніцтвам старшыні коопбюро і кіраўніка сэктарам.

### Праца па сэктарох

У оргмасавым сэктары асноўная праца—організацыя мас вакол пастаўленых перад коопэрацыяй задач. Ад якасьці і характару работы оргмасавага сэктару залежыць пастаноўка коопэрацыйнай работы на прадпрыемстве ў цэлым.

Пры складаньні і прапрацоўцы пляну оргмасавы сэктар павінен асабліва ўлічваць пажаданьні пайнікаў, якія ёсьць у іх рэзолюцыях і асобных рабочых прапановах. Пляны сэктароў зацьвярджаюцца коопбюро.

На оргамасавы сэктар ускладаецца абавязак падрыхтоўкі і правядзеньня ўсялякіх сходаў і конфэрэнцый пайнікаў для абмеркаваньня бягучых політычна-гаспадарчых задач коопэрацыі і розных пытань-

няў практычнай штодзённай работы коопбюро і коопэратыву. Тут абмяркоўваюцца такія пытаньні, як рабочае забесьпячэньне, мобілізацыя рабочае грамадзкасьці на практычную дапамогу прыгараднай гаспадарцы, контрольныя лічбы і гандальплян коопэратыву, пытаньні коопэраваньня, збору паёў, авансаў, пытаньні пераводу коопэрацыйных прадпрыемстваў на гаспадарчы разрахунак і г. д. Усё гэта павінна распрацоўвацца ў парадку сустрэчных плянаў.

Падрыхтоўка і правядзеньне перавыбараў розных органаў коопактыву (крамныя і сталовыя комісіі, цэхкоопбюро, зьменныя коопбюро), а таксама выбары загадчыкаў магазынаў, сталовак і іншых прадпрыемстваў коопэратыву ўваходзяць таксама ў кола работы оргмасавага сэктару. Оргмасавы сэктар павінен весьці працу па вылучэнству на коопэрацыйную работу ў цэхах.

Сэктар павінен праводзіць работу па разгортваньню ўдарніцтва і соцспаборніцтва сярод розных груп коопактыву і пайнікаў. Соцспаборніцтва трэба праводзіць на падставе конкрэтных практычных паказальнікаў, а не абмяжоўвацца агульнымі фразамі „палепшыць“, „павялічыць“, „узмацніць“ і г. д.

Работу сярод жанчын і моладзі оргмасавы сэктар павінен праводзіць праз спэцыяльна вызначаны добраахвотны актыў шляхам скліканьня спэцыяльных сходаў і нарад і падтрыманьня сувязі з адпаведнымі організацыямі.

Цэнтральным пунктам работы оргмасавага сэктару зьяўляецца коопэраваньне, збор паёў, мэтавых і іншых узносаў ад пайнікаў.

Па кожнай зьмене павінны быць вызначаны зацьверджаныя коопбюро і фабкомам спэцыяльныя зборшчыкі, у абавязкі якіх уваходзіць коопэраваньне, збор паёў і іншых узносаў (збор паёў павінен быць організаваны па марачнай сыстэме).

**Па сэктару гаспадарчае працы**

Ня менш важнае месца ў працы коопбюро займае гаспадарчы сэктар. Асноўная яго задача—організацыя ўдзелу пайнікаў і коопактыву на пашырэньне харчовай базы коопэрацыі і на скарыстаньне мясцовых рэсурсаў.

Сэктар клапоціцца аб удзеле пайнікаў і іх сем'яў у працы прыгарадных гаспадарак коопэратыву, організуе штодзённую пасылку брыгад з рабочых і іх сем'яў для практычнага ўдзелу ў пасеўнай і ўборачнай кампаніях.

Гаспадарчы сэктар організуе таксама суботнікі па разгрузцы гародніны, збору тары і г. д. Сэктар організуе сьвінарнікі мясцовага значэньня і наладжвае збор водкідаў як са сталоўкі, так і па рабочых хатах.

Сэктар праводзіць запіс на дровы, гародніну і іншыя тавары, якія коопэратыў адпускае па папярэдняй падпісцы. У задачы сэктару ўваходзіць таксама разьмеркаваньне сярод пайнікаў падпіскі на тавары па авансах.

Сэктар распрацоўвае пытаньні організацыі гаспадарчага абслугоўваньня пайнікаў шляхам адчыненьня буфэту, зачыненай сталоўкі, зачыненага разьмеркавацеля, абслугоўваньня начных зьмен і г. д.

Значную працу сэктар павінен праводзіць у справе організацыі сыстэмы папярэдніх заказаў, дастаўкі тавараў на дом і інш.

Гаспадарчы сэктар павінен удзельнічаць у прапрацоўцы плянаў сталоўкі, буфэту, зачыненага разьмеркавацеля і г. д. На сэктар ускладаецца абавязак прымацаваньня пайнікаў да магазыну, інформаваньня пайнікаў аб парадку і нормах выдачы розных дэфіцытных тавараў і г. д.

Ён павінен весьці працу па замацаваньні рабочых за вытворчасьцю, распрацоўку мерапрыемстваў па

пераважным і лепшым абслугоўваньні ўдарнікаў, па пашырэньні соцыялістычных форм працы і г. д.

Сэктар праводзіць сваю работу праз добраахвотны актыў, праз крамныя і сталовыя комісіі шляхам выдзяленьня спэцыяльных брыгад па найбольш важных пытаньнях.

### Аб сэктары рабочага контролю

Вялізарнае значэньне масавага рабочага контролю падкрэсьлена ў радзе партыйных пастаноў ад 6 верасьня 1930 г. ЦК УсеКП(б) прыняў па гэтым пытаньні спэцыяльную пастанову. Ажыцьцяўленьне ўсіх гэтых важных дырэктыў ускладаецца ў значнай меры на коопбюро праз сэктар рабочага контролю.

У першую чаргу сэктар павінен праводзіць сталы нагляд і контроль за работай крамы, сталоўкі, буфэту, абслугоўваючых данае прадпрыемства. Для гэтага сэктар організуе спэцыяльныя рабочыя брыгады, актыўна ўдзельнічае ў выдзеленых профсаюзамі брыгадах і праводзіць спэцыяльную работу праз крамную, сталовую комісіі. Сэктар павінен наглядаць за працай крамнай і сталовай комісій, ставіць іх даклады на пасяджэньнях коопбюро, ставіць пытаньні аб перавыбарах непрацаздольных комісій.

Сэктар павінен організаваць праверку правільнасьці цэн, мер і вагі ў абслугоўваючых прадпрыемства крамах і буфэтах, праверку мерапрыемстваў па барацьбе са стратамі, з бракам і псаваньнем, праверку правільнасьці правядзеньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, а таксама праверку скаргаў і прапаноў рабочых-спажыўцоў, правільнасьці і сваячасовасьці рэагаваньня на іх.

Сэктар організуе збор прапаноў рабочых па палепшаньні работы коопэратыву.

Усю сваю работу сэктар павінен увязваць з рэвізійнай комісіяй коопэратыву шляхам узгадненьня пляну працы і ўдзелу ў сумесных абсьледваньнях. Сэктар устанаўлівае таксама сувязь з працуючымі на прадпрыемстве дэлегатамі гарсавету для сумеснага правядзеньня абсьледваньняў.

Шэфства фабрык і заводаў над прадпрыемствамі зьяўляецца магутным мэтодам палепшаньня працы коопэрацыі. Сэктар рабочага контролю павінен прымаць актыўны ўдзел у організацыі шэфства і ў працы шэфскіх комісій.

### Сэктар культпрацы

Праца коопбюро не павінна абмяжоўвацца выключна гаспадарчай работай. Коопбюро павінна організоўваць і масавы рабочы контроль над рабочай коопэрацыяй. Побач з гэтым сэктар павінен праводзіць шырокую культурна - масавую работу.

У асноўным гэта работа зводзіцца да падвышэньня ўзроўню коопэрацыйных ведаў пайнікаў. Для гэтай мэты сэктар організуе спэцыяльныя гульні, гутаркі, даклады, вечары пытаньняў і адказаў і г. д. Сэктар павінен таксама падбіраць з пайнікаў і коопактыву кандыдатуры для пасылкі на розныя коопэрацыйныя курсы і ў вучэбныя ўстановы, якія організуюцца коопэрацыяй.

З гэтай-жа мэтай сэктар організуе экскурсіі пайнікаў на прадпрыемствы коопэратыву: хлебазавод, паказальныя сталоўкі, магазыны і г. д., распаўсюджвае сярод пайнікаў коопэрацыйную літаратуру і наглядае за сваячасовым папаўненьнем коопэрацыйнай літаратурай біблітэчкі фабкому і клюбу.

Сэктар прымае актыўны ўдзел ва ўсіх кампаніях, як міжнародны дзень коопэрацыі, 7 лістапада, 1 мая, 8 сакавіка і г. д.

Як і ўсе астатнія сэктары, сэктар культпрацы праводзіць сваю работу праз добраахвотны актыў і выдзяляе спэцыяльную групу актывістаў для правядзеньня дакладаў, гутарак і г. д.

**Пра кіраўніцтва і сувязь**

Непасрэднае кіраўніцтва работай коопбюро ажыцьцяўляецца оргмасавым сэктарам коопэратыву, які праводзіць сыстэматычнае наведваньне і жывы інструктаж бюро, забясьпечвае коопбюро інформацыйным матар'ялам і літаратурай, пэрыодычна склікае інструкцыйныя нарады, організуе абсьледваньні і агляды.

Праца коопбюро праводзіцца ў самай цеснай увязцы з партыйнымі, профэсіянальнымі і іншымі грамадзкімі організацыямі на прадпрыемстве, узгадняе з імі плян сваёй работы і ставіць свае справаздачы на фабкоме.

Агульна - фабрычнае коопбюро ажыцьцяўляе агульны нагляд і кіраўніцтва працай цэхавых (зьменных) коопбюро і ўсёй коопэрацыйна-масавай працай на прадпрыемстве ў цэлым.

---

П. Р-скі

# Прамфінплян сталоўкі

З першага мая ўсе сталоўкі павінны перайсьці на гаспадарчы разрахунак, на складаньне самастойных прамфінпляна ў.

Як-жа і кім павінен будавацца гэты прамфінплян?

Прамфінплян сталоўкі павінен складацца яе загадчыкам не пазьней, чым за 15 дзён да пачатку плянуемага кварталу. У аснову прамфінпляну сталоўкі кладуцца наступныя паказальнікі: а) процант ахопу абслугоўваемых рабочых і членаў сям'і, б) ступень абслугоўваньня ночных зьмен; в) продуктовыя раскладкі, выдача продуктаў і выручка, г) штаты і нагрузка, д) зарплата і дзённыя выдаткі, е) агульная калькуляцыя сабекошту, ж) рэалізацыя водкідаў і адходаў, з) даход ад сьвінаадкорму, і) эфэкт ад рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, к) праца буфэту і л) рэнтабельнасьць сталоўкі.

Пры распрацоўцы плянаў сталоўкі павінны орыентавацца на ахоп грамадзкім харчаваньнем усіх зьмен і цэхаў (зачыненыя сталоўкі) і на скарыстаньне ўсёй прапускной здольнасьці кухні і залі (усе сталоўкі). На падставе колькасьці прымацаваных і абслугоўваемых, продуктовых раскладак і тых контрольных заданьняў, аб якіх сэктар грамадзкага харчаваньня (праўленьне коопэратыву) павінен паведамляць сталоўку, на кожны квартал загадчык сталоўкі распрацоўвае свой прамфінплян.

Плян, у парадку прапрацоўкі сустрэчнага пляну, павінен абмяркоўвацца на вытворчых нарадах сталоўкі сумесна з коопактывам, пасьля чаго ён накіроўваецца ў праўленьне коопэратыву на зацьверджаньне.

Грунтоўныя ўстаноўкі пры распрацоўцы прамфінпляну павінны, апроч адзначанага ахопу насельніцтва, быць наступныя: а) максымальная рацыяналізацыя і падвышэньне вытворчасьці працы, б) зьніжэньне сабекошту, в) падвышэньне якасьці продукцыі, г) палепшаньне абслугоўваньня спажыўцоў.

Прыбыткі сталоўкі складаюцца з прыбытку ад продукцыі кухні, з накладаньняў на тавары буфэту, ад рэалізацыі адходаў і водкідаў і ад сьвінаадкорму. Разьмер прыбыткаў ад сталоўкі залежыць ад разьмеру і сапраўднасьці рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, ад ступені скарачэньня выдаткаў і зьніжэньня сабекошту. На продукцыю

кухні, адпускаемую для буфэту, ніякай накідкі ў карысьць буфэту не даецца, і ўвесь прыбытак ідзе на рахунак кухні. Аб разьмеры накладаньня, які маецца на прадаваемыя з буфэту някухонныя вырабы, сталоўка кожны квартал паведамляецца для ўключэньня ў прыбытковую частку яе пляну.

У парадку ажыцьцяўленьня гаспадарчага разрахунку сталоўка павінна ўдзельнічаць пропорцыянальна зваротам у адміністрацыйна-кіруючых выдатках па ўтрыманьню сэктару грамадзкага харчаваньня коопэратыву. Сталоўка ўдзельнічае таксама ў процантах за крэдыт (на зваротны капітал) пропорцыянальна суме сярэдняе астачы тавараў і продуктаў.

---

**Р. П-н**

# Як складаць гандальфінплян магазыну

Адзначаныя сьнежаньскім пленумам ЦК УсеКП(б) недахопы спажывецкай коопэрацыі як-то—бюрократызм, засьмечанасьць, адрыў ад мас, непаваротнасьць, нягнуткасьць і няўменьне перабудавацца ў адпаведнасьці з тэмпамі разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва—ставяць перад спажывецкай коопэрацыяй баявую задачу—безадкладна перабудаваць сыстэму і мэтоды сваей работы.

Аднак у працы спажывецкай коопэрацыі ёсьць шмат недахопаў.

Наглядаецца ігнараваньне коопэрацыйнымі організацыямі гаспадарчага разрахунку. У сыстэме спажывецкай коопэрацыі ёсьць недаацэнка значэньня фінансаў, што выклікала перавышэньне выдаткаў над прыбыткамі, недаацэнка значэньня мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў і г. д.

Зьнішчыць усе гэтыя недахопы трэба самым рашучым чынам і ў самы кароткі час. Працу ўсёй сыстэмы спажывецкай коопэрацыі неабходна перабудаваць на пачатках поўнага гаспадарчага разрахунку, які павінен забясьпечыць выразную адказнасьць, цьвёрдую эканомію, строгую фінансавую дысцыпліну, паскарэньне таваразвароту, зьмяншэньне выдаткаў, рэнтабельнасьць работы і лепшае абслугоўваньне рабочага спажыўца.

Галоўную ролю гаспадарчага разрахунку адыгрывае гандальфінплян. Без пераключэньня ўсёй працы на строга-плянавыя рэйкі ня можа быць і думкі аб гаспадарчым разрахунку. Своечасова складзены плян на падставе вышэйадзначаных прынцыпаў і сталы штодзённы нагляд за ходам яго выкананьня зьяўляецца асновай гаспадарчага разрахунку.

Якія-ж элемэнты павінны пляваца асобнай гандлёвай адзінкай?

У аснову пляну кладуцца наступныя паказальнікі: б) гандлёвы зварот; б) сярэднія астачы тавараў; в) таваразваротнасьць у днёх; г) нормальны штат і нагрузка; д) выдаткі; е) эканомія ад рацыяналізацыі мерапрыемстваў і барацьба са стратамі і ж) коопэраваньне, паянамнажэньне, мэтавыя ўзносы, уклады і авансы.

Па гэтых паказальніках усе крамы коопэратыву павінны складаць квартальныя пляны ў месячным разрэзе. Магазын павінен улічваць наступныя моманты, на базе якіх будуецца плян: а) колькасьць прымацаванага да магазыну насельніцтва па сьпісах і катэгорыях забесьпячэньня (прынцып прымацаваных да продуктовых крам і зачыненых разь еркаваценяў зьяўляецца асноўнай плянавай працай магазыну); б) нормы забесьпячэньня ў адносінах нормуемых на едака продуктаў; в) удзельная вага магазыну ў агульным звароце коопэратыву і вызначаемая яму па коэфіцыенту

доля ненормаваных дэфіцытных тавараў; г) попыт абслугоўваемага насельніцтва на дастатковыя тавары; д) прапускная здольнасьць магазыну, якую неабходна ў максымальнай меры скарыстаць; е) тыя контрольныя заданьні па асноўных паказальніках, аб якіх праўленьне абавязана не пазьней 10 дзён да пачатку кварталу паведамляць кожную гандлёвую адзінку і ж) вопыт мінулай працы магазыну.

Плян павінен быць даведзены да кожнага асобнага аддзяленьня магазыну, пры гэтым ні ў якім разе ня трэба плян складаць габінэтным шляхам. Складзены на вышэйпаказанай падставе плян павінен быць шырока абмеркаваны ўсімі працаўнікамі крамы сумесна з крамнай комісіяй (на сумесных нарадах) і прапрацаваны ў парадку сустрэчнага пляну. Толькі пасьля гэтага плян прадстаўляецца за 4-5 дзён да пачатку кварталу на зацьверджаньне праўленьню коопэратыву.

Гаспадарчы разрахунак павінен забясьпечыць рэнтабельнасьць працы. Для таго, каб загадчык магазыну меў магчымасьць за гэтым сачыць, праўленьне коопэратыву павінна паведамляць магазын аб разьмеры накладаньня, які ўстанаўляецца для данага магазыну па асобных аддзяленьнях.

Пры гэтым накладаньні адлічваецца процант накладных выдаткаў, якія падаюць на тавар да дастаўкі яго ў магазын. Гэтае накладаньне ўключаецца ў плян, як даходная частка магазыну.

Магазын павінен удзельнічаць у адміністрацыйна кіруючых выдатках па ўтрыманьні цэнтральнага апарату коопэратыву пропорцыянальна ўдзельнай вазе сумы накладаньня па даным магазыне да ўсёй сумы накладаньня па ўсім коопэратыве (для вясковых крам—пропорцыянальна звароту па продажы). Апроч гэтага, магазын удзельнічае ў выдатках на проценты за крэдыты пропорцыянальна удзельнай вазе—сумы сярэдняй таварнай астачы па магазыну за плянуемы квартал да сумы сярэдняй таварнай астачы па ўсім коопэратыве.

Загадчык крамай павінен штодзённа наглядаць за ходам выкананьня пляну і сваячасова прыймаць меры да папярэджаньня магчымых прарываў. Таму ён павінен штодзённа правяраць, наколькі выконваецца плян таваразвароту, таваразваротныя ведамасьці ў днёх, выдаткаў, нагрузкі коопэраваньня і збору паёў і г. д. Зусім дрэнна, калі загадчык магазыну чакае канца плянавага пэрыоду і тады толькі правярае ступень выкананьня пляну. Пры такой рабоце ён можа толькі констатаваць факты, але нічога ня можа рабіць для ліквідаваньня прарываў, бо ўсё гэта ўжо мінавала.

Загадчык крамай павінен ва ўсіх справаздачах дэталёва высьвятляць ход і ступень выкананьня гандальфінпляну.

Я. З к

## Пра контрактацыю

### гародніны і садавіны і пра ўдзел рабочай коопэрацыі БССР у гэтай справе

Контрактацыя пасеваў у гэтым годзе мае вялізарнейшае значэньне ў справе пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі другой бальшавіцкай вясны. Контрактацыя мае сваёй мэтай садзейнічаць далейшаму росту пасеўных плошчаў, яна фактор вытворчага рэгуляваньня і плянаваньня пасеваў у бок большага разьвіцьця тэхнічных культур. Контрактацыя павінна спрыяць далейшаму росту колектывізацыі сельскай гаспадаркі і на падставе яе—ліквідацыі кулацтва як клясы.

Асаблівую ролю набывае контрактацыя ў справе забесьпячэньня нашых гарадоў гароднінай.

Асноўным недахопам плодагароднінавай кампаніі мінулага году было тое, што прымацаваньне паасобных ЦРК да вытворчых раёнаў вытваралася толькі ў верасьні, г. зн. у часе ўборкі ўраджаю. Дзякуючы гэтаму рабочая коопэрацыя ня мела ніякага ўплыву на вытворцаў—колгасы, паселішчы ў бок выкананьня пасеўных плянаў па адпаведных культурах. У час полкі і ўборкі ураджаю, калі патрабавалася максымальная пролетарская дапамога колгасам, рабочая коопэрацыя амаль што стаяла ў баку ад гэтай важнейшай справы. Вынікам гэтага зьявілася нерэальнасьць выданых нарадаў на адгрузку гародніны і невыкананьне пляну забесьпячэньня гарадоў. Адмоўна адбівалася і тое, што ЦРК былі прымацаваны да шмат далёкіх раёнаў, што выклікала загружанасьць чыгункі, патрабавала шмат людзей і выдаткаў.

Вось чаму, улічваючы ўсе гэтыя недахопы, на падставе пастановы СНК БССР ад 3/II-31 г.. у гэтым годзе буйнейшыя ЦРК БССР прымацоўваюцца для забесьпячэньня іх бульбай, гароднінай і садавінай да бліжэйшых раёнаў. Амаль ўся плошча гэтых раёнаў пад памянёнымі культурамі контрактуецца для прымацаваных ЦРК.

Згодна распрацаванаму пляну ўсяго ў гэтых раёнах павінна быць законтрактавана 130000 тон бульбы, 17000 тон капусты, 3000 тон морквы, 4000 тон буракоў, 7500 тон гуркоў і 7500 тон яблыкаў. Уся гэта колькасьць у дадатак да чакаемай продукцыі ад уласных прыгарадных гаспадарак ЦРК у значнай ступені павялічвае супроць мінулага году харчовыя рэсурсы ЦРК, г. зн. паляпшае забесьпячэньне рабочых.

Таму на пытаньне пасьпяховага правядзеньня контрактацыі павінна быць зьвернута выключная ўвага як з боку ЦРК, так і з боку ўсёй пралетарскай грамадзкасьці гораду.

ЦРК павінны з пачатку контрактацыі да самай уборкі ўраджаю устанавіць самую цесную сувязь з прымацаванымі раёнамі, шляхам прымацаваньня да кожнага раёну, буйнага колгасу сталых рабочых брыгад.

Уся грамадзкасьць гораду і раёну павінна быць мобілізавана вакол гэтай кампаніі.

Трэба, каб кожны рабочы, колгасьнік, бядняк ведалі, што кожны га законтрактаванага пасеву дапамагае вырашэньню харчовай проблемы, а гэтым самым выкананьню прамфінпляну.

Трэба організаваць шырокую практычную дапамогу прымацаваным раёнам у справе правядзеньня контрактацыі, пасеву, апрацоўкі і ўборкі ураджаю, адначасова паставіўшы ўсю працу раёну, колгасу пад жорсткі агонь пролетарскай самакрытыкі.

Уся грамадзкасьць гораду і прымацаваных раёнаў павінна пільна сачыць за кожным крокам правядзеньня гэтай справы, своечасова ўскрываючы і зьнішчаючы ўсе недахопы.

Гэтая форма вытворчай непасрэднай сувязі паміж пролетарскім горадам і колектывізаванай вёскай падводзіць пад ЦРК цьвёрдую харчовую базу, з аднаго боку, і з другога — узмацняе пролетарскае кіраўніцтва вёскай, садзейнічае далейшай колектывізацыі.

Ад таго, наколькі здольны будуць рабочая коопэрацыя і мясцовая грамадзкасьць правесьці гэтую важнейшую гаспадарча-палітычную кампанію, залежыць выкананьне пляну забесьпячэньня працоўных гораду бульбай, гароднінай і садавінай.

# У барацьбе за пролетарскія кадры

А. Смалякоў

## Супроць праваопортуністычных адносін да падрыхтоўкі кадраў

Рашэньні аб'яднанага сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б) Б аб перабудове работы спажывецкай коопэрацыі ў адпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду і асабліва своечасовай падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі паставілі, як ніколі, перад сэктарам кадраў Белкоопсаюзу задачу забесьпячэньня сыстэмы падрыхтаванымі пролетарскімі кадрамі, якія маглі-б сапраўды на справе перабудаваць работу сыстэмы спажывецкай коопэрацыі.

Складзеныя сэктарам кадраў Белкоопсаюзу контрольныя лічбы ў лістападзе м-цы 1930 г. падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў для палепшаньня становішча працы сыстэмы і нездавальняючага стану кадраў прыгарадных гаспадарак прадугледжвалі падрыхтоўку і перападрыхтоўку 694 чалавек.

Але ў адпаведнасьці з пастаўленымі вышэй задачамі неабходна было перагледзець складзеныя раней лічбы з пункту погляду форсаваньня падрыхтоўкі кадраў, у асаблівасьці рахункаводаў для СельСТ і розных кваліфікацый да веснавой пасеўнай кампаніі. Галоўная ўвага была зьвернута на організацыю курсаў трактарыстаў, агароднікаў, скотнікаў, паляводаў, пекароў, кухарак і інш.

Усе паказаныя курсы, ня гледзячы на адсутнасьць матар'яльнай навуковай базы пры БКС, а таксама і пэдагогічнага пэрсоналу, недастатковага садзейнічаньня з боку такіх устаноў, як Наркомзем, які мае ў сваім распараджэньні рад навуковых устаноў і тэхнікумаў, усё-ж былі організаваны. 1 і 15 красавіка ўжо зроблены выпускі такіх асноўных кваліфікацый, як агароднікаў—51 чалав., трактарыстаў—58, рабочых агароднікаў—286, кухароў—33, кухарак—162, пекароў—90, загадчыкаў сталовых—25, старшых скотнікаў—38, масладзелаў—40, кіно-мэханікаў—40, радыё-манцёраў—43, кніжнікаў—66, рабочых даільніц — 200, паляводаў — 200.

Акрамя курсаў, якія былі організаваны непасрэдна сэктарам кадраў Белкоопсаюзу, на мясцох таксама было прыступлена на аснове дырэктыў і паказаньняў БКС да організацыі адпаведных курсаў, галоўным чынам, на забесьпячэньні веснавой пасеўнай кампаніі.

Аднак ня ўсе цэрабкоопы і РайСТ (райсаюзы) аднесьліся з усёй сур'ёзнасьцю да справы падрыхтоўкі кадраў. Такія буйнейшыя організацыі, як Гомельскі, Бабруйскі і Аршанскі цэрабкоопы несвоечасова ўзяліся за гэтую справу, а калі і ўзяліся, дык вельмі марудна комплектавалі курсы; у выніку рад курсаў па прыгарадных гаспадарках памянёных ЦРК адчыніліся вельмі позна.

Уся паказаная колькасьць падрыхтаваных кадраў да веснавой пасеўнай кампаніі ў большасьці сваёй па соцыяльнаму складу зьяўляецца рабочымі гаспадарак спажывецкай коопэрацыі.

Неабходна адзначыць большую ўвагу, праяўленую да справы падгатоўкі кадраў з боку дырэкцыі і настаўнікаў Беліцкага тэхнікуму

НКЗ, якія рыхтавалі старшых жывёлаводаў і ўсю сваю працу праводзілі шляхам ўдарніцтва і спаборніцтва, дзякуючы чаму быў зроблен датэрміновы выпуск курсаў.

На гэтых-жа курсах, дзякуючы добра пастаўленай працы, як з боку настаўнікаў, так і саміх курсантаў вялікі процант выпушчаных атрымалі веды большыя, чым гэта было прадугледжана самой праграмай курсаў.

Адукацыйны ўзровень слухачоў у асноўным быў у аб'ёме 4-гадовай школы.

Курсы агароднікаў і трактарыстаў, ня гледзячы на асаблівую цяжкасьць умоў іх працы (адсутнасьць інтэрнату, вялікая адлегласьць месц тэорытычных занятказ ад месц практычных (горад, выстаўка) таксама закончылі сваю працу з посьпехам.

Выпуск курсаў і разьмеркаваньне курсантаў па прыгарадных гаспадарках і наогул па сыстэме даюць наступную насычанасьць пры гарадных гаспадарак ЦРК і паасобных райсаюзаў.

| Назва ЦРК і райсаюзаў | Трактарыстаў | Старш. агарод. | Рабоч. агар. | Палядоваў | Кухароў і кухарак | Пекароў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Менскі . . . . | 10 | 4 | 21 | 15 | Усяго 195 | Усяго 90 |
| Гомельскі . . . | 9 | 2 | 20 | 10 | | |
| Віцебскі . . . . | 7 | 8 | 90 | 10 | | |
| Магілеўскі . . . | 6 | 4 | 20 | 10 | | |
| Бабруйскі . . . | 5 | 8 | 25 | 10 | | |
| Аршанскі . . . | 4 | 3 | 15 | 10 | | |
| Барысаўскі . . . | 4 | 4 | 30 | 10 | | |
| Полацкі . . . . | 3 | 2 | 25 | 10 | | |
| Мазырскі . . . | 3 | 1 | 25 | 10 | | |
| Рэчыцкі . . . . | 3 | 2 | 15 | 5 | | |
| Добрускі . . . . | 2 | 2 | — | 5 | | |

З паказанага відаць, што забясьпечанасьць прыгарадных гаспадарак асноўнымі кваліфікацыямі масавых профэсій, у параўнаньні з мінулым, палепшылася. У сучасны момант галоўнай задачай прыгарадных гаспадарак і асабліва іх кіраўнікоў зьяўляецца тое, каб больш правільна і рацыянальна скарыстаць гэтыя кадры, паставіць іх на адпаведную іх ведам працу. Аднак, ня гледзячы на такія задачы, ўжо ёсьць выпадкі з боку асобных кіраўнікоў (Менскі с.-г. сэктар) зусім няправільнага скарыстаньня маладых спэцыялістаў. Ёсьць факты, калі атрымаўшых веды жывёлаводаў скарыстоўваць у якасьці дальніц альбо зусім адмаўляюцца ад скончыўшых курсы ў той час, калі адчуваецца яўная неўкомплектаванасьць спэцыялістамі прыгарадных гаспадарак і асабліва Менскай.

Гэтаму ігнараваньню новых кадраў неабходна пакласьці канец, бо гэта супярэчыць тэй ўстаноўцы, якую даў пленум ЦК УсеКП(б)

Асноўнымі і галоўнымі недахопамі ў падрыхтоўцы кадраў для прыгарадных гаспадарак да веснавой пасеўнай кампаніі з боку БК Саюзу былі незабясьпечанасьць курсаў інтэрнатам, дрэнная справа з харчаваньнем курсантаў і іншым гаспадарчым абслугоўваньнем. На месцах РайСТ (райсаюзы) таксама аддавалі недастатковую ўвагу курсам, якія праводзіліся ў іх раёнах, ў галіне забесьпячэньня продуктамі харчаваньня, ня гледзячы на тое, што на курсах у большасьці былі рабочыя першай і другой катэгорыі.

Ня гледзячы на тое, што пры Беліцкім жывёлагадоўчым тэхнікуме сконцэнтравалася каля 600 чалавек розных курсаў, усё-ж яны ня былі ўключаны ў плян забесьпячэньня ні сэктарам забесьпячэньня Белкоопсаюзу, ні паасобнымі райсаюзамі на мясцох. Такія зьявішчы значна зьніжаюць тую актыўнасьць і пасьпяховасьць, якая праяўляецца з боку курсантаў. У гарадох недастатковую ўвагу справе падрыхтоўкі кадраў таксама праявілі мясцовыя гарсаветы і профарганізацыі, якія амаль ня цікавіліся справай падрыхтоўкі і вельмі марудна здавальнялі патрэбу курсаў у кватэрах.

Вышэйпаказаныя паасобныя ЦРК на запытаньні аб падрыхтоўцы кадраў да пасеўнай кампаніі проста займаліся „очковтиратель-

ством", даючы відавочна не адпавядаючыя зьвесткі.

За апошні час праароблена вялікая праца сэктарам кадраў БКС у галіне забесьпячэньня ўдзелу ў веснавой пасеўнай кампаніі з боку студэнтаў Віцебскага коопэрацыйнага тэкнікуму, ФЗУ, саўгасвучаў, КТУ ды інш. З гэтых навучальных устаноў вылучана 360 чалавек з прымацаваньнем паасобных груп да паасобных прыгарадных гаспадарак на ўвесь пэрыод веснавой пасеўнай кампаніі.

Далейшай задачай у справе падрыхтоўкі кадраў для прыгарадных гаспадарак павінна быць забесьпячэньне сьвінаадкормачных пунктаў, для якіх неабходна організаваць пры тэхнікумах Наркомзему і Сьвінаводтрэсту старшых сьвінароў—40 чалавек, тэхнікаў-сьвінаводаў—25, старшых жывёлаводаў—40 і тэхнікаў—25. Акрамя гэтага, для забесьпячэньня пераходзячых у сыстэму спажывецкай коопэрацыі масладзельных заводаў неабходна падрыхтаваць 100 чалавек масладзелаў і 25 сыравараў.

Усе гэтыя мерапрыемствы магчыма правесьці толькі тады, калі з боку Наркомзему ды іншых адпаведных органіэацый у наша распараджэньне будуць прадастаўлены тэхнікумы, адпаведныя паказанай кваліфікацыі; неабходна ў гэтай часьці выканаць пастанову студзеньскага пленуму ЦК КП(б) аб прадастаўленьні ў распараджэньне спажыўкоопэрацыі неабходных нав. устаноў для падрыхтоўкі кадраў для яе сыстэмы.



**Новыя заводы—у строй пяцігодкі. Масларобчы завод „Красная звезда" ў г. Урупінску (знадворны выгляд)**

# Літаратурны куток

І. Луцкевіч

## На Барысаўскай фэрме

(*н а р ы с*)

— Ды як сказаць... можна сказаць, у нас, усё цяпер упіраецца ў гной,—павольна прагучэла нязграбная фігура дырэктара.

Ад Барысава да фэрмы ўсяго тры вярсты. Пакуль цягнецца гэтая дарога, дырэктар і агроном расказваюць пра свае клопаты.

— Работы шмат, фэрма вялікая... Жартачкі, 70 проц. агульнага забесьпячэньня Барысаўскага пролетарыяту ляжыць на фэрме. Праўда, можна было-б павялічыць гэтую лічбу, але тут трэба дапамога,—гаворыць агроном.

Дырэктар гучна, з хваляваньнем гаворыць пра мерзлую бульбу, пра сысунка, які адыграў такую значную ролю для хворай каровы. Паўз сасновы лес узьнімаемся ўгару, агроном зьвяртае нашу ўвагу на зламаную стальвагу, якая ляжыць каля дрэва.

— Чорт ведама што...

А вось і першыя будынкі фэрмы. Правей на парнікох, відаць, возяць гной, закладваюць рамы, лявей складзены бярвеньні, цёс—будзе новы дом на 8 кватэр. Проста раскіданы розныя пабудовы фэрмы.

Іх, здаецца, шмат, але гэтага мала. Шырыцца фэрма, расьце будаўніцтва. Для сталых рабочых вызначана пабудаваць дом на 78 кватэр. Каля жывёльнага двара кіпіць пабудова трох баракаў на 300 чал.

Паўз цыркулярку і электростанцыю ўзьнімаемся ўгару.

На дзьвярах праўленьня аб'ява:

> Сёньня.........................1931 г. сход рабочых і служачых фэрмы.
>
> Парадак дня:
>
> 1. Шэфства над фэрмай газэты „Бальшавік Барысаўшчыны“.
> 2. Бягучыя справы.
>
> Рабачком

Да пачатку сходу тры гадзіны. Ідзем на скотны двор. Вось тут усё і ўпіраецца ў гной. Фэрме для выкананьня пасеўнага пляну трэба вывезьці 18.000 тон гною, трэба закласьці 4.500 парніковых рам. Ёсьць 90 рабочых коняй, патрэбна 300. Недахоп у конях пагражае невыкананьнем пляну. Так „абязьлічка“ якая панавала да гэтага часу на фэрме, дужа дрэнна адбівалася на гаспадарцы. Яшчэ не разгарнулася як мае быць падрыхтоўка да вясны, а ўжо ёсьць 36 пакалечаных коняй. Поўная безадказнасьць, недагляд зрабілі сваю справу. Для ліквідацыі такога становішча ўхвалена безадкладна зрабіць замацаваньне коняй за рабочымі.

Характэрна адзначыць той факт, што БЦРК зусім ня цікавіцца тым, як рыхтуецца фэрма да вясны. Да гэтага часу там ня ведаюць, што зроблена па вывазцы гною, падрыхтоўцы насеньня і г. д. На фэрме ўжо вясна грукае ва ўсе дзьверы, а ў БЦРК яшчэ папяровая зіма не растала...

Ідзем далей. Перад намі вялізны кароўнік. Ёсьць 206 дойных кароў. 700 літраў малака выдойваецца штодзённа. Абсталяваньне кароўніка здавальняючае. Для вадапою ўстаноўлен чан, у які моторам накачваецца вада. Для кожнай каровы ёсьць стойлы. Дрэнна толькі з кармамі. Ня было ніякай эканоміі сена. Кожны раз у паездку бралі пад сябе з дому сена. Двор безгаспадарча закідан саломай, а.. у выніку атрымалася бяскорміца. Догляд за каровамі зусім нядбайны. Перад намі маленькі сысунок, сьмешна расставіўшы ногі, ад усёй сілы дапамагае сваёй рабой маці. Не даглядзелі... Малако выбегла з вымя пад скуру, у кроў. Сысунок дакорліва паглядае на нас...

* * *

У клюбе сход. Прышло ня больш 40 чалавек. Гэта яшчэ нічога,—кажа сэкратар ячэйкі тав. Буднік. Былі часы, калі даводзілася складаць брыгады па скліканьню сходаў. Слаба ў нас у гэтых адносінах... ніякай работы...

Сёньня прыехалі прадстаўнікі друку. Рабачком адчыняе сход. На парадку дня: 1) прыняцьце шэфства „Бальшавіка Барысаўшчыны“ над фэрмай; 2) аб працоўнай дысцыпліне.

Парадак дня прымаецца, але раптам галасы:

— Дзе колдагавор?!

— Калі вы яго прапрацуеце?— выкрыкваюць рабочыя. Выяўляецца, што рабачком яшчэ да гэтага часу ня склаў колдагавору, не прыстасаваў яго да ўмоў фэрмы.

Ухвалілі: „Рабачкому безадкладна скласьці колдагавор і паставіць на зацьвярджэньне сходу“.

У спрэчках адчуваецца абурэньне і патрабаваньне цьвёрдай працдысцыпліны. Выступае Ліза Гарохава, яна расказвае пра выпадак, калі невялічкі хлапец кіраваў коньмі а два вялікія лодыры ішлі з боку і курылі цыгаркі. Сьляпы на адно вока конь з разгону наляцеў на дрэва і зламаў стальвагу. Гарохава абурана такімі адносінамі і патрабуе спагнаньня...

За ёю паднімаецца *работніца-дойка*:

— Мне пагражалі... Старэйшаму рабочаму не падабаюцца рабочыя прапановы. Па яго віне зьбеглася малако ў каровы. Ён мне адказаў: „абыйдземся бяз указкі, а то пераведу на сьвінарнік“.

За яе выказваецца Сподрын, загадчык сьвінгасу:

— Мы ведаем, хто нам пагражае... Толькі ворагі могуць так казаць. Сьвінгас—не катарга. Гэта адзіная галіна нашай гаспадаркі, дзе сапраўды разгорнута ўдарніцтва, дзе найбольш патрэбна адукаваных людзей.

Праўда, сьвінарнікі пабудаваны няўдала, сярод сьвіней зьявілася была чума, але дружнай работай ударнікаў сьвінгасу яна спынена, работа наладжваецца.

„Бальшавік Барысаўшчыны“ арганізуе ўдарны пост газэты, тут-жа на сходзе абіраецца штаб посту.

Перад ім непачаты край работы.

Ударнікі лічацца, а ўдарніцтва няма. Па-ударнаму працуюць толькі сьвінгас і кузьня. У іншых галінах да гэтай справы адносяцца так сабе.... для формы.... Інвэнтар ня спраўны, не хапае гужоў, пастромкаў, не хапае насеньня—поўная бесклапотнасьць (БЦРК, вядома, не прадбачыў такога).

У сэнсе ўліку нормаў выпрацоўкі таксама нічога ня зроблена. Гэта значна затрымлівае пераход на зьдзельшчыну. Фэрма як-бы з боку ад усіх задач, якія стаяць перад ёю. Зруху пакуль што няма.

Ёсьць насьценгазэта, але ў ёй ні слова аб прарыве, ні слова аб адсутнасьці культурна-масавай работы. Побач сельгастэхнікум—культасяродак, але... гэта толькі тэхнікум, яго ня тычыцца нішто. Відаць, тэхнікум дапаможа фэрме толькі тады, калі дырэктар фэрмы прыдзе да дырэктара тэхнікуму і скажа:

— Чуеш, дапамажы, а то скаргу буду пісаць.

* * *

Лёгка пісаць, ды ня лёгка бачыць такія рэчы. Ёсьць магчымасьці, усе даныя за тое, каб Барысаўская фэрма сапраўды вырасла ў магутны прадуктовы комбінат для больш растучага пролетарыяту Барысава.

Ёсьць электрастанцыя, кузьня, сушылка, цыркулярка на дзьве пілы, млын, мэханічныя майстэрні, побач культурны асяродак ды...

Няма растлумачальна-выхаваўчай работы, няма належнае ініцыятывы, зацікаўленасьці гэтай справай з боку профсаюзных і грамадзкіх організацый.

Слаба разгорнута ўдарніцтва. Такое становішча нельга пакінуць надалей. Старое кіраўніцтва фэрмы за сваю опортуністычнасьць і непрацаздольнасьць зьнята. На фэрме пачынаецца сапраўдная ліквідацыя „абязьлічкі".

Фэрма ліквідуе свой прарыў пабальшавіцку. Райком партыі, профсаюзы павінны ўзьняць грамадзкую увагу вакол Барысаўскае фэрмы— фабрыкі гароднiны, мяса і малака.



Кіпіць сяўба. Засяваюцца шырокія палеткі калгасаў

**Дапаможам коопэрацыі выйсьці з адстаючага ўчастку ў передавую колёну социялістычнага наступленьня**

# Коопэрацыйная трыбуна

**Селькор**

## Дзе-ж зьніжэньне накладных выдаткаў

*(Калінкавічы)*

Згодна прапановы Белкоопсаюзу, спажывецкія таварыствы павінны ўсю нарыхтаваную пушніну і мехсыравіну, пры наяўнасьці на суму 250 руб., накіроўваць у Менскую базу Пушсындыкату і пры адпраўцы апошняй паведамляць Белкоопсаюз, каб гэтым даць магчымасьць Белкоопсаюзу прысутнічаць пры прыёмцы яе Пушсындыкатам і сачыць за правільнай прыёмкай.

Калінкавіцкім райспажтаварыствам 27-І было адпраўлена пушніны на суму 1572 руб. і 9-ІІ 623 руб. У дзень адпраўкі пушніны былі адпраўлены і паведамленьні Белкоопсаюзу, але-ж базай Пушсындыкату прынята паказаная пушніна і ацэнена першая партыя на 155 руб., а другая—на 98 р. ніжэй ацэнкі с. т. Прадстаўнік Белкоопсаюзу ня ўдзельнічаў пры прыёмцы.

На тэлеграму с. т. Белкоопсаюзу: праверце першую прыёмку і прасачэце за другой, атрымалі адказ, што праверыць ня маем магчымасьці, таму што пушніна базай Пушсындыкату прынята і адпраўлена. БКС раіць с. т. прыяжджаць самім і прысутнічаць пры прыёмцы.

Вядома, што ў другі раз мы будзем высылаць свайго прадстаўніка так, як робяць іншыя загатоўчыя організацыі Мазыршчыны, каб ня мець такіх страт.

Але-ж гэта будзе няправільна, бо, з аднаго боку, такі мэтод адарве спэцыялістых ад іхняй непасрэднай працы і дрэнна адаб'ецца на нарыхтоўках, а, з другога боку, атрымаюцца вялікія выдаткі. Калі-ж падлічыць выдаткі па паездцы ды іншых загатоўчых організацый, дык атрымаем вялікую суму выдаткаў. Дзе-ж тады будзе зьніжэньне накладных выдаткаў?

У той час, калі можна было-б Белкоопсаюзу і Ахотсаюзу вылучыць па адным прадстаўніку, які-б прысутнічаў пры прыёмцы *пушніны*, дык адпала-б патрэбнасьць высылаць сваіх прадстаўнікоў і траціць шмат грошай.

---

**Вока**

## Гандляром ня месца ў краме

*(в. Даманавічы, Мазырск. р.)*

Загадчык крамы Даманавіцкага спажывецкага таварыства Голуб Моўша сумесна з былым гандляром Фуксонам Лейзэрам прамяньваюць дэфіцытныя тавары на сала, масла, цяляты ды іншыя продукты.

Фуксона задавальняе рознага роду краай, чабатамі і хусткамі крамнік Голуб, а Голуба ў сваю чаргу здавальняе добрымі рэчамі Фуксон Лейзэр. Нават тыдзень таму назад Фуксон завёз некалькі пудоў сала, а таксама масла аж у Ленінград. Зьвярнуўшыся назад ў Даманавічы, атрымаў патрэбныя яму рэчы для абмену і кінуўся на

вёску выменьваць іх па Лапіцкаму сельсавету ў вёскі: Многаверш, Ператок, Халічы, Касеятаў і Ракаў.

Аб гэтым гандлярстве добра ведае і сам старшыня праўленьня спажывецкага т-ва Залцаў Янка, але маўчыць, прышчурыўшы вочы, як быццам-бы ня бачыць.

Гэты-ж гандляр Фуксон некалькі месяцаў засаб вазіў сала, масла і куры ў Калінкавічы, дзе прадаваў па вельмі падвышанай цане. Аб гэтым добра ведае нават сельсавет, але таксама маўчыць. Гэты гандаль трэба зараз-жа спыніць.

Што датычыцца загадчыка крамы Даманавіцкага спажывецкага т-ва Голуба М., дык на гэта павінна даць сваё рашучае слова прокуратура Мазырскага раёну, бо грамадзскасьць чакае гэтага.

**Клакоцкі**

## Адстаюць з мобілізацыяй сродкаў

(*Сіроціна*)

Па Сіроцінскаму райспажтаварыству мобілізацыя сродкаў зусім нездавальняючая: няма ніякага кіраўніцтва з боку оргаддзелу, няма ўліку паступленьня паёў. Крамы зусім ня цікавяцца гэтым пытаньнем. У выніку паявых збораў, замест 5000—4000 руб., ёсьць 300—400 руб.

Оргаддзелу трэба ўзварухнуцца, правесьці растлумачальную работу сярод насельніцтва, каб выканаць цалкам заданьне па мобілізацыі сродкаў.

**Кікіліч**

## Зьвярнуць увагу

(*Калінкавічы*)

У Калінкавіцкім райспажтаварыстве ёсьць 4 кіно-перасоўкі і чатыры сталыя кіно-мэханікі. Але калінкавіцкія коопэратары райспажтаварыства мала зьвяртаюць увагі на кіно-работу. Усе кіно-мэханікі кепска забясьпечаны спэцвопраткай. Пры грашовых справаздачах мэханікаў у бухгальтэрыі райспажтаварыства зусім ня лічацца з часам. Даводзіцца хадзіць разоў па тры, пакуль зробіш сваю справаздачу. Такія адносіны да кіно зьяўляюцца недапушчальнымі. Калінкавіцкаму райспажтаварыству трэба зразумець, што кіно зьяўляецца адным з лепшых агітатараў на вёсцы.

**Ф. Жырноў**

## Як можна паабедаць за 5 капеек

Таварышы, хочаце паабедаць за 5 капеек? Едзьце ў Гомель. Нічога страшнага. Бярэце білет і едзьце. На станцыі зьлезеце і зойдзеце ў сталоўку ТСТ, возьмеце талёны на гарбату і спакойна, як дома заказвайце:

— Боршч украінскі і рагу.

Вы запытаецеся:

— Як так, гэта-ж талёны на гарбату?

Нічога страшнага, ніякай розьніцы тут няма між талёнамі на гарбату і абед.

Гарбата каштуе 5 кап., а абед—55 кап. Талёны роўныя, подпіс адзін і той, трэба дадаць толькі пяцёрку і ўсё зроблена. Шмат хто так рабіў. Я ў Воршы чуў гэта ад пасажыраў сваімі вушамі. Некаторыя з Лепеля ехалі ў Гомель абедаць, жартачкі?..

Вось гэта дык сталоўка! А ўсё чаму? А таму, што загадчык там разумны. Што яму — хай ядуць, шкада ці што?..

— А ў выніку з-за неахайнасьці атрымоўваецца:

— І чаму гэтыя лічбы ня сходзяцца... растрата... і здаецца-ж стараліся... за капейкаю глядзелі... От скажы!

На нашу думку, Гомельскай сталоўцы ТСТ час ужо ведаць узоры талёнаў, час пацікавіцца і такімі дробязямі...

**Селькор**

## Не забывайцеся на чыстату

Дудзіцкая спажывецкая коопэрацыя нядаўна пачала рабіць загатоўку курэй. Але-ж дрэнна абстаіць справа з памяшканьнем для курэй. Там, дзе знаходзіцца цукар, мука, цукеркі, ходзяць куры. Дудзіцкія бюрократы не паклапаціліся, каб збудаваць хоць які-небудзь куратнік, каб унікнуць антысанітарыі ў краме. Але-ж на гэта ніхто не зьвяртае ўвагі, крамнікі глядзяць скрозь пальцы. Трэба рашуча зьнішчыць такую нядбайнасьць, стварыць санітарныя ўмовы ў коопэрацыі, бо на гэта Дудзіцкія коопэратары, як відаць, забыліся.



З кожным днём накіроўваюцца ўсё новыя колёны трактараў на саўгасна-колгасныя палі

# Хроніка

● Наркомснаб СССР вызначыў для інваліднай коопэрацыі Беларусі на першае паўгодзьдзе бягучага году наступную колькасьць чорных мэталяў у тонах: гатункавага -50, для стрэх--9, цынкаванага—1.

● Прамкоопэрацыі Беларусі адпускаецца на другі квартал воўны натуральнай—35 тон, кароўяй і конскай—57, рызьзя 30.

● Наркомснаб СССР пастанавіў прыняць на цэнтралізаванае забясьпечаньне па сьпісу № 1 з другога кварталу гэтага году аўтаработнікаў і рамонтных саюзтранспорту Беларусі. Па гэтай пастанове да катэгорыі аўтоработнікаў аднесены: шофэры, кондуктары ўсіх аўтамашын, рабочыя, тэхпэрсонал, служачыя аўтомайстэрняў, аўтобазы і гаражу, а таксама штатныя грузчыкі Саюзтранспорту. Усе астатнія рабочыя і служачыя саюзтранспорту, а таксама члены іх сем'яў забясьпечваюцца па сьпісу № 2 за лік вобласных фондаў праз спажкоопэрацыю.

● Колегія Наркомснабу СССР зацьвердзіла скліканьне ўсесаюзнай нарады па пытаньні хлебазагатоўчай кампаніі 1931 г. па сыстэме Хлебажывёлаводцэнтру і Саюзхлеба на 17 мая г. г.

● Наркомснабам СССР установлены для Беларусі наступныя загатоўчыя цэны на гародніну ўраджаю 1931 г. (за цэнтнэр)—бульбы—3 руб. 60 кап., капусты асеньняй—3 р. 80 к., буракоў сталовых—4 р. 50 кап., цыбулі рэпчатай—10 руб., морквы—6 руб., гуркоў грунтоўных—7 р. 50 к.

● На другі квартал 1931 г. устанаўліваецца фонд прамтавараў для прэм'яваньня ўдарнікаў на суму ў 800.000 руб. З гэтай сумы вызначана Менску—250.000 р., Віцебску—170.000 руб., Гомелю—150.000 р., Барысаву—61.000 руб., Магілеву—50.000 руб., Воршы—20.000 р. і Мазыру—8.000 р. Рэшта прамтавараў будзе разьмеркавана паміж паасобнымі фабрыкамі.

● Наркомснаб Саюзу асыгнаваў на пашырэньне і рэконструкцыю макароннай прамысловасьці Беларусі 90.000 руб.

Адначасова асыгнавана на пашырэньне, рэконструкцыю і капітальны рамонт іншай харчовай прамысловасьці (броварнай, дражджавой і безалькогольнай па Беларусі—370.000 руб.).

● Праўленьнем Садагародцэнтру зацьверджаны ліміт на скrandanчэньне пабудоў крухмальна-пата.ных заводаў Беларусі на 1931 г. у суме 600.000 руб. Паказаная сума перадаецца Белколгасцэнтру для працягваньня работ па будаўніцтве гэтых заводаў, якое пачата яшчэ ў 1930 г.

● Колегія Наркомснабу СССР пастанавіла 15 мая г. г. склікаць Усесаюзную нараду работнікаў па мясной прамысловасьці з наступнай абвесткай дня:

1) даклад аб дзейнасьці праўленьня Саюзмяса, 2) будаўніцтва па мясной прамысловасьці, 3) вынікі жывёлазагатовак і падрыхтоўка да новай жывёлазагатоўчай кампаніі, 4) організацыя коопэрацыйнага вучоту і справаздачнасьць, 5) правядзеньне гаспадарчага разрахунку па сыстэме Саюзмяса і 6) організацыйная пабудова сыстэмы і ўзмацненьне яе кадрамі.

● Наркомснабам СССР зацьверджаны плян адкорму сьвіней на другі квартал г. г. па Беларусі ў колькасьці: пастаўка—10.000 галоў, зьёмка—2.500 гал. З агульнага пляну адкорму прадугледжваецца пастаноўка на бэконны адкорм—3.000 гал.

● З першага кварталу г. г. Аршанскай спажывецкай коопэрацыяй рэалізавана розных тавараў на суму 1.149.715 руб., што складае 90 проц. заданьня ў парадку мобілізацыі сродкаў.

---

**Усімі сіламі будзем садзейнічаць хутчэйшаму правядзенью ў жыцьцё пастановы ЦК УсеКП(б), СНК і Цэнтросаюзу аб спажывецкай коопэрацыі**

# Афіцыйны аддзел

## Пастанова

### праўленьня Белкоопсаюзу пра парадак заключэньня дагавароў унутры сыстэмы

#### А. Па Белкоопсаюзу

1. Да організацыі самастойных атрасьлевых аб'яднаньняў унутры БКС, сэктары паміж сабою дагавароў не заключаюць, таксама сэктары не заключаюць ад свайго імя дагавароў з організацыямі па-за сыстэмай, а ўсе дагаворы, што заключаюцца з організацыямі па-за сыстэмай, нават і тады, калі гэтыя дагаворы цалкам адносяцца да дзейнасьці данага сэктару, заключаюцца ад імя БКС, але абавязкова адказвае за гэты дагавор і падпісвае яго член Праўленьня, які ведае адпаведным сэктарам.

2. Сэктар забесьпячэньня БКС ад імя Белкоопсаюзу заключае дагаворы на рэалізацыю продукцыі з заводамі, якія знаходзяцца ў падпарадкаваньні БКС (Чырвоны Хэмік, Мылаварань завод).

#### Б. Па Цэрабкоопах

Паміж сэктарамі ЦРК дагаворы не заключаюцца. Ад імя праўленьня ЦРК адпаведны сэктар заключае наступныя дагаворы:

а) з хлебазаводамі на забясьпечаньне сыравінай і рэалізацыю продукцыі яго, пры чым хлебазаводы з ЗРК, ТСТ, у якіх няма ўласных хлебапякарняў, заключаюць самастойны дагавор на забясьпечаньне апошніх хлебам з абавязковым уключэньнем у дагавор пункту пра тое, што ЗРК, ТСТ перадаюць хлебазаводу прылічваючуюся ім (ЗРК, ТСТ), муку, як жытнюю, так і пшанічную, пры чым у дагаворы абавязкова абгаварваюцца цьвёрдыя цэны, дастаўка за кошт каго і г. д.;

б) з малочнымі заводамі на рэалізацыю выпрацоўваемай заводамі продукцыі і на тую частку малака, якая перадаецца ЦРК для пераапрацоўкі на завод (апошні заключае малочная фэрма). На астатнюю частку малака, якая ідзе на завод для пераапрацоўкі, завод заключае дагавор самастойна з адпаведнымі нарыхтоўчымі організацыямі непасрэдна;

в) дагаворы з малочнымі фэрмамі, сьвінаадкормачнымі гаспадаркамі, а таксама і гароднымі заключаюцца абавязкова з кожнай паасобку, як зусім самастойнай гаспадарчай адзінкай. У дагаворы павінна быць зусім дакладна агаворана: колькасьць здаваемай продукцыі, цана, тэрміны здачы, за кошт каго дастаўка. Дагавор павінен прадугледжваць абавязацельствы двух бакоў, г. зн. як на здачу для рэалізацыі продуктаў фэрмы, адкормачных гаспадарак і г. д., так і па забясьпечаньню гэтых гаспадарак кармамі, насеньнем і г. д.;

г) дагаворы з буйнымі сталоўкамі, пераведзенымі на поўны гаспадарчы разрахунак, павінны прадугледжваць і агаварваць: парадак забесьпячэньня сталоўкі неабходнымі фондамі, інвэнтаром, колькасьць адпускаемых абедаў і іх якасьць, каштоўнасьць гэтакіх, вышэй якой кіраўнік сталоўкі ня мае права браць, пры чым у агульнае кіраўніцтва кіраўніка сталоўкай уключаюцца буфэты, якія існуюць пры ёй, а ў тых сталоўках, дзе можна організаваць кавярні, павінны быць таксама заключаны дагаворы;

д) у тых райспажсаюзах, ЗРК, ТСТ альбо ГарСТ, дзе ёсьць прыгарадныя гаспадаркі, хлебапякарні і іншыя прадпрыемствы, цалкам пашырыць гэты парадак, пры чым там, дзе прыгарадная гаспадарка, адкормачны пункт, малочная фэрма складае невялікую гаспадарку, дагавор можа быць заключан не на паасобную гаспадарку, а адзін на ўвесь комбінат.

3. Пацьвердзіць дырэктыву праўленьня БКС пра дапушчэньне заключэньня самастойных дагавароў як ЦРК, ЗРК, ГарСТ, ТСТ, а таксама і райспажсаюзамі з асобнымі організацыямі, продукцыя якіх не плянуецца гензгодамі і цьвёрдымі дагаворамі БКС.

У апошні раз патрабаваць ад усіх ЦРК, ЗРК, ГарСТ, Райспажсаюзаў усю работу па пераводу на гаспадарчы разрахунак скончыць не пазьней 1 мая 1931 г.

Старшыня Праўленьня БКС *Хаскін*

Верна: Сэкратар Белкоопсаюзу *Каржуеў*

---

# РЭЗОЛЮЦЫЯ

## По дакладу тав. Хаскіна на нарадзе старшынь Райсаюзаў ад 20/IV-1931 г. аб практычных мерапрыемствах па пераводу ўсёй работы спажывецкай коопэрацыі на гаспадарчы разрахунак і заключэньню дагавароў.

Надаючы выключнае значэньне пераводу ўсёй работы спажывецкай коопэрацыі на гаспадарчы разрахунак, пераводу ўсёй гандлёвай і загатоўчай дзейнасьці яе на дагаворных пачатках як унутры сыстэмы так і па-за ёй, што, бязумоўна, прывядзе да ўнядрэньня сапраўднай адказнасьці за ўсю правадзімую работу як у самым Райсаюзе, так і нізоўцы (СельСТ), а таксама забясьпечыць сапраўднае выкараненьне ўсіх буйных недахопаў, якія ёсьць у рабоце сыстэмы, і ў дадатак да пастановы праўленьня БКС ад 15/IV аб практычных мерапрыемствах па пераводу ўсёй работы спажывецкай коопэрацыі на гаспадарчы разрахунак і заключэньне дагавароў, нарада старшынь Райсаюзу лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Зараз-жа прыступіць да пераводу ўсёй работы Райсаюзаў і ўсіх іх вытворчых і гандлёвых прадпрыемстваў на строгі гаспадарчы разрахунак.

Для гэтай мэты Райсаюз павінен тэрмінова перавесьці прадпрыемствы Райсаюзаў—СельСТ, ГарСТ і больш буйныя гандлёвыя адзінкі на самастойны балянс, устанавіўшы для іх неабходны ліміт у адпаведных філіялах Дзяржбанку.

Лічыць, што СельСТ вытварае закупкі ў Райсаюзах за наяўны разьлік і адчыняе свой рахунак у Райсаюзе.

Пры пераводзе прадпрыемстваў Райсаюзаў і больш буйных гандлёвых адзінак на самастойны балянс, неабходна правесьці старанную праверку ўсёй маемасьці, якая ёсьць у даных прадпрыемствах з дасканалай ацэнкай яе і з абавязковым ўстанаўленьнем гандальфінплянаў для кожнага прадпрыемства і кожнай гандлёвай адзінкі.

2. Нарада старшынь Райсаюзаў лічыць зусім магчымым разгортваньне гаспадарчай ініцыятывы СельСТ, якая можа выражацца ў закупцы імі тавараў, акрамя Райсаюзаў, і ў іншых організацый данага раёну, а таксама рэалізацыі

па-за Райсаюзамі продукцыі, якая не ўваходзіць у цэнтралізаваныя загатоўкі і цэнтралізаваны плян.

3. Пры перабудове ўсёй работы па прынцыпу строгага гаспадарчага разрахунку і пераводзе асобных вытворчых прадпрыемстваў і гандлёвых адзінак на самастойны балянс у аснову іх работы пакласьці наступныя прынцыпы:

а) для асобных вытворчых адзінак: цьвёрдая колькасьць выпрацоўваемай і здаваемай продукцыі; асартымэнт і якасьць гэтай продукцыі; зьніжэньне сабекошту, калькуляцыя сабекошту, зьніжэньне выдаткаў, стражэйшы вучот выхаду продукцыі; недапушчэньне аб'яднаньня продукцыі у саміх гаспадарках і выдаткаваньня не па простаму прызначэньню.

б) для гандлёвых адзінак: разьмер тавараразвароту, цьвёрдыя лічбы астаткаў тавараў; цьвёрдая нагрузка на кожнага работніка прылаўку і ў залежнасьці ад гэтага ўстанаўленьне цьвёрдага штату крамы; ўстанаўленьне мінімальнага проценту ўсушкі; поўная адмена практыкі „натуральных страт", скарачэньне выдаткаў; дасканалыя лічбы цьвёрдых заданьняў па збору паёў і коопэраваньню насельніцтва.

4. Лічыць, што аднэй з важнейшых задач у галіне разгортваньня далейшай работы гандлёвай сеці па пераводу яе на гаспадарчы разрахунак павінна быць рашучая барацьба з ўсялякага роду стратамі, актамі сьпісаньня, растратамі, раскраданьнямі і г. д. На гэты бок павінна быць зьвернута выключная ўвага Райсаюзу з устанаўленьнем стражэйшай адказьнасьці кожнага работніка за даручаную яму справу, каб ён адказваў ня толькі юрыдычна, але і матар'яльна за ўсялякі ўшчэрб, які будзе нанесены ў выніку безгаспадарчасьці і няўважлівых адносін, пры чым рашучым чынам зьнішчыць укаранёныя ў практыку работы сеці абыякавыя адносіны да пытаньня стратнасьці.

5. Нарада лічыць зусім недапушчальным у далейшым наяўнасьць момантаў зьняважлівых адносін да пытаньня прыбытку і намнажэньня ў рабоце спажывецкай коопэрацыі і абавязвае ўсе Райсаюзы і ўсю сець спажывецкай коопэрацыі перавесьці ўсю работу на гаспадарчы разрахунак, маючы на ўвазе ў выніку гэтай работы атрымаць прыбытак і намнажэньне.

Для гэтай мэты неабходна кожнаму Райсаюзу, ГарСТ і СельСТ рашучым чынам змагацца за эканомію і гаспадарчасьць у правадзімай рабоце, за недапушчэньне псаваньня тавараў, за паскарэньне тавараразвароту і за максымальны ахоп усіх відаў загатовак на сяле. Разам з тым лічыць зусім недапушчальным, каб прыбытак і намнажэньне ў рабоце Райсаюзу ці СельСТ ішлі за кошт скажэньня клясавых задач, агульнага падвышэньня цэн і няўвязкі ўсёй работы з палітычна-гаспадарчымі задачамі, якія праводзяцца на вёсцы.

6. Нарада лічыць, што ўся загатоўчая дзейнасьць павінна быць пабудавана на строгіх дагаворных адносінах як з БКС, так і з кожным СельСТ і ГарСТ, з тым, каб цалкам было абгаворана абавязковае выкананьне пляну ў вызначаныя тэрміны. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на атрыманьне максымальнага гаспадарчага эфэкту ў загатоўчай дзейнасьці. Для гэтай мэты Райсаюз павінен зьвесьці да мінімуму ўсе нявытворчыя выдаткі, максымальна патаніць хаваньне і перавозку загатаўляемай сыравіны; праяўляць самыя ўважлівыя адносіны пры здачы загатаўляемай сыравіны і іншых тавараў і продуктаў і зьвяртаць асаблівую ўвагу на іх сартыроўку.

7. Прызнаючы, што асноўным момантам, які зможа забясьпечыць перабудову работы вытворчых і гандлёвых адзінак на прынцыпах гаспадарчага разрахунку, зьяўляецца ажыцьцяўленьне ўсіх фінансавых мерапрыемстваў: цьвёрдай крэдытнай дысцыпліны, недапушчэньня выдаткаваньня сродкаў на мэты, не прадугледжаныя плянамі, зацьн-

верджанымі БКС, лічыць абавязковым: цалкам выканаць пляны мобілізацыі як па паёх, так і ўкладах і авансах; рашучым чынам спыніць усялякае выдаткаваньне сродкаў на мэты, не прадугледжаныя плянамі БКС, не дапушчаць замарожваньня тавараздвароту, а максымальна разгортваць яго з тым, каб да 1 мая—да часу пераводу ўсёй работы на гаспадарчы разрахунак і новую крэдытную рэформу цалкам укласьціся як у дырэктыўныя ліміты таварных астаткаў, так і ў устаноўленыя ліміты па фінансаваньню.

Для гэтай мэты неабходна зараз-жа прыняць шэраг гэроічных мер па ўзмацненьню тавараздвароту, вызваленьню сродкаў, закладзеных у нярухомую маемасьць у розныя іншыя галіны, якія не даюць ніякай карысьці рабоце Райсаюзу, а таксама цалкам і поўнасьцю выканаць дырэктыву праўленьня БКС аб скарачэньні на 50 проц. паштова-тэлеграфных выдаткаў і на 15 проц. адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў па Райсаюзах.

8. Констатуючы, што і па сёньняшні час сыстэма спажывецкай коопэрацыі працягвае мець страты па цэламу шэрагу прамтавараў у сувязі з рэзкім разыходжаньнем паміж устаноўленым уніфікаваным падаткам і існуючымі нацэнкамі, і што гэтая група тавараў складае ў агульным звароце сыстэмы, прыкладна, ад 50 да 60 проц., даручыць праўленьню БКС як мага хутчэй вырашыць гэтае пытаньне ў бок устанаўленьня такіх узаемаадносін з прамысловасьцю, пры якіх сыстэма спажывецкай коопэрацыі па гэтых групах тавараў ня мела-б страт, а наадварот мела вызначаны мінімальны процант прыбытку. Лічыць неабходным, каб да 1 мая—да моманту пераходу на гаспадарчы разрахунак у гэтае пытаньне была ўнесена поўная яскравасьць.

9. У дадатак да п. 8 протоколу аб'яднанага пасяджэньня праўленьня БКС з старшынямі ЦРК, ЗРК і ТСТ ад 15 красавіка, лічыць неабходным, каб БКС у дэкадны тэрмін устанавіў цьвёрды парадак нацэнак па таварах, якія перадаюцца Райсаюзам—СельСТ, а таксама і па нацэнках на здаваемую СельСТ сыравіну ў парадку плянавых загатовак.

10. Даручыць праўленьню БКС дабіцца такога становішча, пры якім з 1 мая ліміты, устаноўленыя Дзяржбанкам для сыстэмы спажывецкай коопэрацыі, былі дыфэрэнцыяваны на тавараздварот, мэтавыя мерапрыемствы, якія праводзіць сыстэма, і на загатоўку.

11. Лічыць неабходным, каб прадугледжаныя па пляну сродкі на будаўніцтва прыгарадных гаспадарак, загатоўку і пераапрацоўку малочнай продукцыі, былі ў самы бліжэйшы час пераведзены адпаведным Райсаюзам.

12. Лічыць неабходным, каб не пазьней 10 мая 1931 г. Райсаюзы прыслалі ў БКС свае гандальфінпляны.

13. Нарада лічыць, што ўся работа па пераводу на гаспадарчы разрахунак усіх вытворчых і гандлёвых адзінак, падпарадкаваных Райсаюзу, павінна быць скончана не пазьней, як 28 красавіка.

Кожны Райсаюз павінен зараз-жа мобілізаваць увесь свой апарат, актыў пайнікаў і ўсіх работнікаў сеткі для сапраўднага ўдзелу і дапамогі ва ўсёй гэтай адказьнейшай рабоце, шырока растлумачыўшы тое вялікае політычнае і гаспадарчае значэньне, якое маюць перавод усёй работы сыстэмы спажывецкай коопэрацыі на гаспадарчы разрахунак і строгія дагаворныя адносіны.

14. Устанавіць наступныя прынцыпы дагаворных адносін:

а) на падставе дагавору, які заключаецца Цэнтросаюзам з прамысловасьцю на прамтавары і на падставе якога вызначаецца агульны завоз прамтавараў у рэспубліку, Белкоопсаюз заключае дагаворы як з Цэнтросаюзам, так і з сваімі ніжэйшымі організацыямі (ЦРК, ЗРК, Райсаюзы);

б) На продукцыю мясцовай і кустарнай прамысловасьці, якая не праходзіць у цэнтралізаваным парадку, Белкоопсаюз заключае дагаворы з адпаведнымі організацыямі мясцовай і кустарнай прамысловасьці, на падставе якіх заключае дагаворы з сваімі нізавымі організацыямі;

в) На ўсю групу прод. тавараў, на якія Цэнтросаюз з адпаведнымі атрасьлевымі аб'яднаньнямі Наркомснабу заключае генэральную згоду, Белкоопсаюз заключае цьвёрдыя дагаворы з мясцовымі філіяламі атрасьлевых аб'яднаньняў Наркамснабу Саюзу і атрасьлевымі аб'яднаньнямі Наркамснабу БССР, на падставе якіх заключае цьвёрдыя дагаворы з сваімі нізавымі організацыямі.

г) Лічыць, што Райсаюз заключае дагаворы з СельСТ толькі назагатоўку.

15. Даручыць праўленьню БКС паставіць пытаньне перад СНК аб адмене ўсялякай броні прамтавараў.

16. У сувязі з тым, што заключаны дагавор з Белторфам па лініі абслугоўваньня рабочых торфянікаў, зьяўляецца *дагаворам для* сыстэмы спажывецкай коопэрацыі не рэнтабельным, даручыць праўленьню Белкоопсаюзу пераглядзець гэты дагавор у бок яго рэнтабельнасьці.

17. У сувязі з тым, што цэлы шэраг пытаньняў, зьвязаных з пераводам усёй работы на гаспадарчы разрахунак, заключэньнем дагавароў, вырашан на аб'яднаным пасяджэньні праўленьня БКС сумесна з старшынямі ЦРК, ЗРК і ТСТ, поўнасьцю кіравацца гэтым рашэньнем і ва ўсёй рабоце па пераводу на гаспадарчы разрахунак і заключэньню дагавароў у Райсаюзах.

Згодна:

*Сэкратар праўленьня*

*БКС КОМАР*

**Новая крэдытная рэформа, пераход на поўны гаспадарчы разрахунак—важнейшая гаспадарча-палітычная задача**

# Бібліографія

**Угараў—„Лесазагатоўкі і рабочая сіла“. Выданьне БДВ 1931 г. Тыраж 7000 экз. Стар. 56.** *Цана 12 кап.*

Ня гледзячы на тое, што лесазагатоўкі ў нас займаюць адно з першарадных месц па загатоўчай лініі, друкаванае кніжкі на беларускай мове па гэтым пытаньні амаль ня было.

У апошні час зьявілася ў сьвет рэцэнзуемая кніжка Ўгарава. Як дапаможнік загатоўцу, яна зьяўляецца аднэю з лепшых.

Простымі словамі, перасыпаючы іх конкрэтнымі лічбамі і падмацоўваючы ў дадатак фактамі, аўтар паказвае значэньне лесазагатовак. Ён спыняецца на тых цяжкасьцях, якія даводзіцца часамі сустракаць лесазагатоўцу ў практычнай працы. Тут даецца багаты матар'ял клясавае барацьбы ў часе вярбоўкі рабочае сілы, дзе кулакі і іх падпявалы ўсякімі спосабамі імкнуцца ўнесьці дэзорганізацыю ў лесазагатоўчую справу.

Часта непрацаздольныя вярбоўшчыкі рабочае сілы правальваюць справу вярбоўкі, іграючы гэтым на руку клясаваму ворагу. У большасьці гэта здараецца і па прычыне цякучасьці рабочае сілы. Таму, каб лепш наладзіць справу лесазагатовак, ЦК УсеКП(б) вынес рашэньне аб неабходнасьці стварэньня сталых кадраў для загатоўчых мэт. Т. Угараў зазначае, што „асноўная лесазагатоўчая організацыя Беларусі „Лесбел“ мяркуе стварыць у гэтым годзе кадр сталых рабочых у колькасьці 8 тысяч чалавек“. Бязумоўна, пр вядзеньне ў жыцьцё гэтых мерапрыемстваў пазбавіць лесазагатоўчыя організацыі цякучасьці рабочае сілы. Аўтар дае практычныя прапановы, з каго павінны набірацца гэтыя кадры.

Паколькі аўтар не абмежаваўся тэмаю лесазагатоўкамі і рабочаю сілаю, а больш глыбей прапрацаваў гэта пытаньне, праводзячы розьніцу паміж ранейшым скарыстаньнем лясное гаспадаркі і сучасным, то кніжачка гэта набывае вартасьць і для ўсіх тых, хто цікавіцца вядзеньнем лясное гаспадаркі.

**М. К—ч.**

---

**Доцэнт І. М. Серада. „Вадапой жывёлы ў хлеве і на пашы“ Выд. Наркомзему БССР. Менск. 1930 г.** *Ст. 26. Ц. 10 к.*

У індывідуальных гаспадарках, а таксама і ў колектыўных вельмі часта прападае тая ці іншая жывёла з-за адсутнасьці належнага за ёй дагляду. Вельмі часта жывёла пачынае хварэць з прычыны таго, што яе кормяць ня так, як трэба, пасуць ня там, дзе трэба, а таксама пояць ня ў час, або заразьліваі вадой. Гэтыя на першы погляд нязначныя недахопы вельмі балюча адбіваюцца на падвышэньні колькасьці і якасьці жывёлы ў нашых як індывідуальных, так і колектыўных гаспадарках.

Популярна напісаная кніжачка І. М. Серады ў некаторай меры папярэджвае ад гэтага няшчасьця. У прыватнасьці гэта кніжачка дае грунтоўнае знаёмства, як трэба паіць скаціну ў хляве і на полі.

У кніжачцы коратка і ясна адзначана, колькі тэй ці іншай жывёле патрэбна вады, якое значэньне мае вада для організму, калі і як патрэбна паіць жывёлу, каб гэта спрыяла яе росту, чаму жывёле нельга даваць ваду абыякую, як забясьпечыць будынкі вадой, дзе знаходзіцца жывёла, які павінен быць вадапой на пашы і інш.

Усе гэтыя мерапрыемствы, усе гэтыя парады навукова абгрунтаваны. У кніжачцы ёсьць шмат адпаведных лічбаў, якія даюць магчымасьць лепш зразумець той ці іншы малюнак. Таксама кожнае тэхнічнае мерапрыемства па вадапою скаціны ілюстравана адпаведнымі малюнкамі і схэмамі.

Гэту кніжачку трэба наблізіць да колгасаў і наогул да вёскі. Па сваёй цане яна даступна кожнаму.

**Зоркін.**

---

**Э. В. Змачынскі і М. С. Савіцкі. „Хэмізацыя народнай гаспадаркі БССР“. БДзВ. Менск. 1930 г. Стар. 40.** *Цана 10 к.*

У сувязі з пераходам апрацоўкі зямлі ад індывідуальнага прымітыўнага спосабу на колектыўна-машынны і наогул у сувязі з уздымам максымальнай продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, зараз пачынаюць адыгрываць надзвычайна вялікую ролю ў гаспадарцы розныя штучныя ўгнаеньні глебы.

Штучнае ўгнаеньне глебы, пры ўмелым дапасаваньні ўгнаеньня, надзвычайна высока павялічвае ўраджайнасьць расьлін. Але не заўсёды нашы, нават колектыўныя, гаспадаркі ўмеюць тое ці іншае ўгнаеньне добра дапасоўваць да тае ці іншай глебы. Часамі тое ці іншае ўгнаеньне кідаецца ў тую ці іншую глебу не па адпаведнасьці ці не ўпару, і вынікі бываюць ад гэтага дрэнныя.

Каб ужываць штучныя ўгнаеньні ў сельскай гаспадарцы, трэба мець для гэтага адпаведныя веды. Веды гэтыя можна атрымаць ад агрономаў, а таксама праз знаёмства з адпаведнай літаратурай па гэтым пытаньні.

Агульнае ўяўленьне па пытаньні штучнага ўгнаеньня глебы, менавіта па пытаньні хэмізацыі сельскай гаспадаркі дае кніжачка Змачынскага і Савіцкага „Хэмізацыя народнай гаспадаркі БССР“.

У гэтай кніжачцы ёсьць спэцыяльны разьдзел па хэмізацыі сельскай гаспадаркі. У гэтым разьдзеле дакладна паказваецца, на якую расьліну колькі патрэбна таго ці іншага штучнага ўгнаеньня, як яго ужываць і якія яно дае вынікі. У кніжачцы гаворыцца аб угнаеньні глебы гноем, зялёным угнаеньнем, торфяным угнаеньнем, мінэральнымі тукамі, азотам, фосфарам, каліем, ёсьць паказаньні, як вапнаваць глебу.

Акрамя спосабаў ужываньня штучных хэмічных угнаеньняў, у кніжачцы адзначаецца, якое вялікае значэньне мае хэмізацыя глебы ў барацьбе з рознымі шкоднікамі культурных расьлін.

Таксама ў кніжачцы ёсьць разьдзел, у якім падаюцца агульныя весткі аб тым, якім чынам і з чаго здабываецца тое ці іншае штучнае ўгнаеньне. Падаюцца некаторыя весткі аб хэмічнай прамысловасьці. Напрыклад, як адбываецца процэс перапрацоўкі сельскагаспадарчых продуктаў, некаторыя весткі аб лесахэмічнай прамысловасьці і прамысловасьцях іншых хэмічных вытворчасьцяй.

Кніжачка бязумоўна можа даць асноўныя мінімальныя весткі для таго, каб умець больш-менш правільна скарыстаць тое ці іншае штучнае хэмічнае ўгнаеньне. Таксама прачытаўшы гэтую кніжачку, чытач атрымае ўяўленьне аб тым, якую вялікую карысьць прыносіць хэмізацыя народнае гаспадаркі наогул і сельскай гаспадаркі у прыватнасьці.

Па сваёй яснасьці тлумачэньня і кошту кніжачка даступна кожнаму.

**К. Прыборкін.**

---

*Адказны—Рэдактар* **Гінзбург**

*Выдавец*—**Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз**